Выходзіць з 1932 года.

# ЛіМ

## Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

22 ЛІСТАПАДА 2002 г. № 46/4180 КОШТ 328 РУБ.


Эдуард СКОБЕЛЕЎ:

**"Лепшыя пісьменнікі абодвух лагераў ужо зразумелі, што іхнія "турнірныя" бойкі анічагуткі добрага не зычаць літаратуры і чытачу..."**

3



**"ПЕСНІ ВАЎКОЎ" — прэм'ера Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі.**

10-11



Дзмітрый БУГАЁЎ:

**"...Добрых творцаў не бывае без выхаду на глыбінную думку пра чалавека, якая ў сутнасці сваёй становіцца і думкай пра родную краіну, пра чалавецтва, пра цэлы свет".**

13-15

**Валеры ЦЭПКАЛА:**

# «ПАРАДАКСАЛЬНА, АЛЕ ЧЫМ БОЛЬШ ДЭМАКРАТЫЧНАЕ ГРАМАДСТВА, ТЫМ МЕНШЫ НА ЯГО ЎПЛЫЎ ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ»



***Валеры ЦЭПКАЛА ў новай гісторыі Беларусі сваё месца ўжо абазначыў і як палітолаг і як прафесійны палітык. Яшчэ за савецкім часам працаваў дыпламатам у Фінляндыі, з набыццём нашай краінай суверэнітэту вярнуўся на радзіму (родам з Гродна). У 29 гадоў стаў першым намеснікам міністра замежных справаў, праз нейкі час - амбасадарам у ЗША. Нядаўна прызначаны памочнікам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ён ніколі не цураўся сустрэч з журналістамі, даючы каментары да розных палітычных рэаліяў. Але сённяшняя гутарка з ім рэдактара аддзела публіцыстыкі "ЛіМА" Міхала ТАЛОЧКІ, якая прэзентуе рубрыку "Дыялогі", закранае, так бы мовіць, іншую плоскасць рэчаіснаснасці. Сістэма каштоўнасцяў, месца беларусаў у свеце, сённяшні ўплыў інтэлігенцыі на грамадства - вось невялікі пералік закранутых тэмаў.***

**Міхал ТАЛОЧКА:** *Валеры Вільямавіч, апошнім часам на розных узроўнях — ад апазіцыйных палітыкаў да вышэйшых дзяржаўных чыноў — модным стала абмеркаванне беларускай "нацыянальнай ідэі". Па мне, дык усё зразумела: у краіне патрэбны лад, парадак, разуменне між грамадзянамі. Як у сям'і. Такі рэцэпт не можа быць універсальным. Каб перайсці калюгу, можна абысціся без компасу ды карты... Што тычыцца славутага "Жыве Беларусь" - гэта хутчэй лозунг, заклік.*

**Валеры ЦЭПКАЛА:** Нацыянальную ідэю нельга сфармуляваць, яе можна толькі выказаць, і да таго ж не вельмі дакладна. Вядома, выраз "Жыве Беларусь" - лозунг, які нельга разглядаць у адрыве ад усяго комплексу людскіх адчуванняў, найперш, інтэлектуальнай эліты. Інакай застанецца прыгожы, велічны, але толькі гук.

Болей веку не заціхаюць спрэчкі вакол адной з думак Дастаеўскага. Сутнасць яе ў наступным. Калі б у мяне (пісьменніка) стаяў выбар паміж Богам і праўдаю, і я б ведаў, што яны супярэчаць адно другому; нават болей таго, калі б я быў абсалютна ўпэўнены ў ісціннасці гэтай праўды, усё роўна б застаўся з Богам. Дастаеўскі меў на ўвазе сістэму каштоўнасцяў быцця кожнага народа. Ідэя заўсёды ляжыць у аснове стварэння і малых дзяржаў і імперый. Лёсы народаў вырашаюцца не развагамі. Наўрад ці аргументы эканамічнай мэтазгоднасці могуць іграць значную ролю.

4-5

# БЫЎ ЧАС. БЫЎ ВЕК. БЫЛА ЭПОХА.

**Новыя досведы пра аўтарства ананімнай паэмы чытайце на стар.**

6-7



## КОЛА ДЗЁН

**Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь распаўсюдзіла заяву, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: "Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь расцэньвае адмову Чэшскага боку забяспечыць выдачу віз афіцыйнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь для ўдзелу ў саміце Савета Еўраатлантычнага партнёрства (Прага, 21-22 лістапада 2002 года), як грубае парушэнне дамоўленасцяў СЕАП аб праве кожнай дзяржавы самастойна вызначаць узровень свайго прадстаўніцтва на саміце. Гэта беспрэцэдэнтнае, навязанае Чэшскаму боку рашэнне стала чарговым крокам непрыкрытага націску на Рэспубліку Беларусь, сведчыць аб несамастойнасці знешняй палітыкі Чэхіі, дэманструе, з якой знявагай Чэшская Рэспубліка адносіцца да рашэнняў СЕАП, удзельніцай якіх яна з'яўляецца.**

**Рэспубліка Беларусь праводзіла і будзе праводзіць паслядоўную і адказную палітыку ў сферы міжнароднай бяспекі і кантролю над узбраеннямі зыходзячы з уласных нацыянальных інтарэсаў..." Гэтая заява і адкліканне пасла Беларусі ў Чэхіі былі зроблены ў адказ на адмову выдачы віз афіцыйнай беларускай дэлегацыі для ўдзелу ў Пражскім саміце. Цяпер у МЗС нашай краіны распрацоўваецца комплекс мер на выклік, які кінула нам Чэхія, але яны ні ў якім разе не закрануць інтарэсы простых грамадзян Чэшскай Рэспублікі.**

### *РАШЭННЕ ТЫДНЯ*

Кіраўнік нашай дзяржавы Аляксандр Лукашэнка сваім распараджэннем зацвердзіў рашэнне савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі аб выдзяленні 26 грантаў на суму 203,8 мільёна рублёў для рэалізацыі мастацкіх і сацыяльна значных творчых праектаў. З названай сумы 51,8 мільёна рублёў накіравана на правядзенне буйных міжнародных і нацыянальных культурных акцый (фестываляў, конкурсаў, выставак) з удзелам дзяцей і моладзі, якія будуць садзейнічаць удасканаленню прафесійнага майстэрства маладых беларускіх музыкантаў і мастакоў і ўмацаванню культурных сувязяў Беларусі і замежных краін. 94 мільёны рублёў выдзелена вышэйшым і сярэднім спецыяльным навучальным установам культуры і мастацтва ў мэтах аптымізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу і стварэння неабходных умоў для падрыхтоўкі высокакваліфікаваных творчых кадраў.

### *СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ*

У мінулыя выхадныя 320749 хлопцаў і дзяўчат нашай краіны адзначылі сваё свята — Дзень студэнта. На сённяшні дзень большасць маладых вучыцца ў дзяржаўных ВНУ — 272918 чалавек, з якіх 101007 атрымліваюць стыпендыю, а 113203 вучацца за грошы. 68401 пражываюць у інтэрнатах. У дзяржаўных ВНУ большасць студэнтаў асвойваюць прафесіі ў галіне камунікацый, права, эканомікі, кіравання (92063), на другім месцы стаіць вывучэнне тэхнікі і тэхналогіі (53151), на трэцім — педагогіка (52548). У нашай краіне вучыцца каля 8 тысяч замежнікаў, сярод якіх большасць моладзі з Расіі, Польшчы і Кітая.

### *ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ*

"Гомельскай праўдзе" — 85 гадоў. Віншуючы калег з юбілеем, жадаем ім і надалей творчага неспакою і плёну на журналісцкай ніве.

### *ПАШАНА ТЫДНЯ*

У гэтым годзе народнаму паэту Беларусі Пімену Панчанку споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння. На жаль, паэт не дажыў да гэтага юбілею. Землякі П. Панчанкі — жыхары гарпасёлка Бегомль Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці — у гонар паэта прысвоілі яго імя адной з новых вуліц. У мясцовай бібліятэцы будзе створаны музей, экспанаты якога раскажуць пра творчы шлях народнага паэта.

### *ЛІЧБЫ ТЫДНЯ*

Сусветнай арганізацыяй аховы здароўя вызначана дзесяць найбольш распаўсюджаных прычын смерці. Менавіта ад іх больш за 40 працэнтаў людзей у наш час і памірае. Асноўнай прычынай смерці ў краінах "трэцяга свету" з'яўляецца недаяданне — да 3,4 мільёна чалавек штогод. Прычынай росту паказчыка смяротнасці з'яўляецца і праблема лішняй вагі: кожны год у Паўночнай Амерыцы і Еўропе з-за празмернай паўнаты памірае да паўмільёна чалавек. Найбольш небяспечным застаецца курэнне, ад якога цяпер памірае каля пяці мільёнаў чалавек, а ў 2020 годзе гэтая лічба вырасце да 9 мільёнаў.

### *ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ*

Першай медыцынскай установай у нашай краіне, якая пяройдзе на электронную гісторыю хваробы, стане ваенны шпіталь Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. На сённяшні дзень у інфармацыйнай сетцы шпіталя знаходзіцца больш трыццаці аўтаматызаваных працоўных месцаў, якія ўкамплектаваны персанальнымі камп'ютэрамі. У іх захоўваецца інфармацыя, пачынаючы з 1997 года, і ўтрымліваецца больш за 70 тысяч картак пацыентаў.



**ДАТЫ**

# «І ПЕСНЯ, І СЛАВА...»

Першы ў гісторыі нашай краіны Дзяржаўны гімн быў зацверджаны 24 верасня 1955 года ўказам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. З таго часу афіцыйная музычная візітоўка Беларусі не мянялася. Нават без слоў, яна адкрывала кожны новы дзень і завяршала трансляцыю на першым канале радыё ўжо суверэннай дзяржавы. А гэтым летам "песні вярнулі мову" — музыка Дзяржаўнага гімна Беларусі, напісаная, як вядома, Несцерам Сакалоўскім, загучала з абноўленым тэкстам: яго аўтар, Уладзімір Карызна, улучыў у сваю паэтычную працу і некаторыя радкі свайго папярэдніка Міхася Клімковіча.

Пра Несцера Сакалоўскага, здаецца, напісана ўжо ўсё: у энцыклапедыях, у даведніках Саюза кампазітараў, у перыёдыцы. Праўда, некалькі новых штрыхоў да гісторыі знакамітай "Песні пра Нёман" дадала публікацыя Г. Загароднягa "Неўміручая песня" (гл. "ЛіМ" за 22.12.2000 г.). Дзіўна, канечне, што не захавалася грунтоўнага архіва творчага чалавека, чый зямны шлях скончыўся ў мірным 1950-м годзе, чыя праца была звязана з адказнымі пасадамі (мастацкага кіраўніка Беларускага ансамбля песні і танца, начальніка Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР, старшага рэдактара музычнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага выдавецтва), чые нашчадкі жывуць у Мінску.

Успомніць пра Несцера Сакалоўскага ёсць значная нагода: нядаўна споўнілася 100 гадоў з дня яго нараджэння. Той, хто шануе імя гэтага кампазітара, можа наведаць месца яго пахавання на Вайсковых могілках у Мінску, якое няцяжка знайсці, угледзеўшы сярод бязлістых восеньскіх дрэў адмысловы помнік — выяву барадатага старога, "бацькі-Нёмана"...

**С. ВЕТКА**



*Фота К. ДРОБАВА*

# МАЛАДЗЕЧАНЦЫ – У МАЛАДЗЁЖНЫМ

***15-17 лістапада два беларускія тэатры часова памяняліся сцэнамі: Дзяржаўны маладзёжны тэатр выправіўся ў Маладзечна, а ў сталіцу завітаў Мінскі абласны драмтэатр. Ён прапанаваў мінчанам дзіцячую казку, а таксама тры спектаклі для дарослых: камедыю Ф. Крона "Без мяне мяне ажанілі", монаспектакль "Білет у рай" Ю. Эдліс і "сцэнічны жарт" "На другі дзень Сёмухі" паводле Купалы.***

Найцікавейшай з прывезеных пастановак падалася менавіта апошняя з вышэй узгаданых, ліпеньская прэм`ера тэатра. Спектаклем "На другі дзень Сёмухі" Мінскі абласны адкрыў свой новы тэатральны сезон. Гэты адметны сцэнічны варыянт купалаўскіх "Прымакоў" напісаў вядомы мінскі рэжысёр, дырэктар ТЮГа Юрый Вута. З аднаактоўкі, якой звычайна захапляюцца самадзейныя калектывы, ён зрабіў паўнавартасны трохактовы спектакль, насычаны танцамі і музыкай. Традыцыйная для пастановак па Купалавых творах беларуская народная музыка была заменена дынамічным кактэйлем з сусветнай класікі, кампазіцый вядомых беларускіх гуртоў "Песняры" і "Палац", аўтарскай музыкі Рыгора Уласюка. Мастак-пастаноўшчык Сяргей Антонаў таксама адышоў ад звыклых народных строяў і апрануў герояў па-багатаму, "у срэбра-золата". Увогуле, па словах Юрыя Вуты, спектакль, прысвечаны 120-годдзю нашых песняроў, атрымаўся "зусім не лапцюжны". Гэтую пастаноўку можна ўспрымаць па-рознаму – адным яна падаецца замахам на класіку, другім – удалым прыкладам арыгінальнага рэжысёрскага падыходу да "рэанімiравання" гэтай самай класікі. Галоўнае, што "маладзёжная вясялуха", як называе сваю пастаноўку рэжысёр, падабаецца і гледачам, і акцёрам.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

**ПРАЦЯГ ТЭМЫ**

# ПРЭМ'ЕР КАНТРАЛЮЕ

***"Прэм'ер-міністр падкрэсліў, што гэты аб'ект знаходзіцца пад яго кантролем..." — паведамілі друк пасля таго, як 4 лістапада Генадзь Навіцкі наведаў будынак Беларускай дзяржаўнай філармоніі, каб азнаёміцца з ходам яе падрыхтоўкі да капітальнага рамонту.***

Гэта быў ужо другі візіт прэм'ер-міністра ў дом па праспекце Ф. Скарыны, 50. Падчас першага свайго візіту 28 кастрычніка кіраўнік урада быў настроены крытычна, заўважыўшы, што за 5 месяцаў з часу закрыцця філармоніі на капітальны рамонт завяршылася падрыхтоўка праектна-каштарыснай дакументацыі, не былі заключаны афіцыйныя дагавор з арэндным прадпрыемствам "Белпраект". Сёння ўжо можна сказаць, што праца актывізавалася.

Рамонт з элементамі рэканструкцыі павінен завяршыцца за 8 месяцаў — з тым, каб галоўная канцэртная ўстанова адкрыла свой чарговы сезон у абноўленым будынку. Запланавана выдаткаваць з бюджэту 2003 года каля 8 мільярдаў рублёў. Прычым, у гэтую суму не ўключаны выдаткі на рамонт гаргана. Ён, дарэчы, у мэтах аховы ад будаўнічых работ абшываецца металам. Кошт рэанімацыі велічнага інструмента вызначыцца пасля кансультацый з прадстаўнікамі чэшскай фірмы-вытворцы.

На думку Аляксея Шута, прызначанага новым дырэктарам БДФ 27 кастрычніка, адна з галоўных праблем у рамонце залы — захаванне яе акустычных вартасцяў. Акустычны праект стварылі ў 60-х гадах маскоўскія спецыялісты. Галоўны праекціроўшчык даўно ўжо не жыве, пракансультавацъ сённяшніх будаўнікоў няма каму. Але з'явіўся іншы план: палепшыць акустыку залы, заключыўшы дамову з адпаведнай швейцарскай фірмай. Зала, камфортная і для слухачоў, і для выканаўцаў, — зарука будучай прыцягальнасці нашай філармоніі, у тым ліку для знаных замежных музыкантаў.

Сёння ў творчых і адміністрацыйных работнікаў БДФ — час выпрабаванняў, звязаных не толькі са стратай галоўнай канцэртнай пляцоўкі ў цэнтры сталіцы, але і з вымушанай эвакуацыяй. Чыннікі адзінай складанай структуры разам са сваёй спецыфічнай гаспадаркай раскіданыя па розных кутках (у літаральным сэнсе слова!) Мінска, па непрыстасаваных для захоўвання інструментаў і для рэпетыцый памяшканнях. Да ўсяго, ужо амаль недасяжны для журналістаў філарманічны прэс-цэнтр (!): яго перамясцілі нібыта ў Зялёны Луг, у будынак дзіцячага садка, дзе ацяпленне, мабыць, і падключылі, а тэлефон — пакуль не.

Будзем спадзявацца, што дзякуючы асабістай увазе прэм'ер-міністра да спраў у будынку БДФ, капітальны рамонт не ператорыцца ў даўгабуд.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

**ВЫСТАВЫ**

•

У Палацы мастацтва — персанальная выстава скульптара Генадзя Буралкіна. На ёй прадстаўлены станковая пластыка, графіка, а таксама фотаздымкі манументальных твораў майстра. У Буралкіна свой "почырк", які лёгка пазнаецца. Творы апошніх гадоў выклікаюць у гледачоў неадназначную рэакцыю. Хтосьці лічыць гэта прарывам у новую эстэтыку, хтосьці — няўдалым эксперыментам, які не варта выносіць на публіку.

Найбольш вядомы твор Г. Буралкіна мемарыяльная кампазіцыя ля ўваходу ў метро "Няміга" таксама адразу не ўсім прыйшоўся даспадобы, а сёння ўспрымаецца нармальна.

•

Жывапісец Міхась Рагалевіч не мае ганаровых званняў і высокіх узнагарод, але не памылюся, назваўшы яго постаць знакавай для беларускага выяўленчага мастацтва. Бо ў тыя гады, калі ў мастацтве дамінаваў "сацыял-рэалістычны" афіцыёз, яго цікавіў чалавек у звычайных, нармальных жыццёвых праявах. Яго першая ў жыцці персанальная выстава (было гэта гадоў трыццаць таму) выклікала велізарны розгалас. Ды і зараз творчасць М. Рагалевіча мае цікаўнасць для эстэта, выхаванага на творах Шагала, Мадзільяні, шэдэўрах "інсіту", і для чалавека, што выпадкова зайшоў у Палац мастацтва.

**П. В.**

Нацэліўшыся на гэтую складаную і неардынарную тэму, хачу, перш-наперш, пакланіцца ўсім маім настаўнікам, добразычліўцам і нядобразычліўцам, і, вядома ж, рэдактарам, — Івану Кановічу, Рыгору Яўсееву, Галіне Нужковай, Уладзіміру Маруку, Генадзю Пашкову, Эдуарду Валасевічу, Хведару Жычку, Яўгену Хвалею, Уладзіміру Жыжэнку, Валянціне Коўтун, Паўлу Місько, Браніславу Спрынчану, Вадзіму Спрынчану, Анатолю Чаркасаву і другім, якіх я, безумоўна ж, памятаю і аб якіх — будзе час, — пакладуцца на паперу, адпаведна іхняй чалавечай дабрыні, прызнальнасць і ўдзячнасць майго сэрца.

Менавіта гэта было дамінантай грамадскай думкі. Пра рымскага імператара Доміцыяна казалі, што ён нічога не чытае, не ведае гісторыі, паэзіі, забаўляецца гульнёй у косці і сувязямі з жанчынамі выпадковымі і непрыстойнымі.

Між тым у Рыме ўжо ў другім стагоддзі да нашай эры гутаркі аб паэзіі былі завядзёнкай у элітных колах. Дзякуючы чытанням і тлумачэнням малавядомыя, але высокай пробы вершы жывых і памерлых рабіліся вядомымі ўсяму грамадству.

Людзей, якія займаліся гэтым, звалі граматыкамі, гэта грэчаская назва. Першапачатковая ж рымская — літараты. Адрознівалі літарата (умельца прыгожа і пераканаўча казаць і пісаць, а таксама тлумачыць прачытанае і напісанае) і літаратара (як стваральніка літаратурных твораў і знаўцы стылістыкі).

# СУЧАСНАЕ ПІСЬМЕННІЦКАЕ МАЙСТЭРСТВА

Амаль пра кожнага рэдактара, з кім зводзіў мяне творчы лёс, я штосьці пісаў — шчырае і ўдзячнае.

Як, да прыкладу, пра Р. Яўсеева, які і дагэтуль, роўна з другімі, не ведае пра тую добразычлівую цікаўнасць, з якой я ўглядаўся ў яго ў людскім натоўпе.

Вось гэты верш — "Рыгор Евсеев на проспекте Машерова", што склаўся вясною 1995 года:

*Идет средь сонмища прохожих,*
*Знакомых лиц не узнает.*
*В темнице дней он вечность*
*прожил*
*И все свободу бедный ждет.*

*Идет и тихо шепчет строки:*
*душа без святости болит.*
*Да если б правили вы, боги,*
*ужель забыли б честь и стыд?*

*Он видит оком потаенным*
*незримый мир иных времен.*
*Без оскорбленных, прокаженных,*
*где не звучит ни плач, ни стон...*

*Поэт от неба — сын народа,*
*его тяжелая судьба,*
*его печаль, его невзгода*
*всегда бескрылого раба...*

*Он слишком мудр, чтоб*
*мудрогелить,*
*но слишком слаб, чтоб побеждать.*
*Что остается? Только верить*
*И напряженно что-то ждать...*

Кожны з пісьменнікаў, спасцігаючы ўрокі жыцця, стварае свой самастойны і адметны арсенал літаратурнага майстэрства. Нават калі ён не замацоўвае вопыт у сентэнцыях, што агрубляюць тонкія законы, ён адкрывае яго ў разважаннях, выказаных людзям, якія здольны іх зразумець і г.д.

У свой час я занатоўваў іскры, што ляцелі ў сутычках з рэдактарамі, ад атрутных водгукаў у друку, хвілінак уласнага прасвятлення. Мне нават пашчасціла выдаць гэтую кнігу "Узелки на память, заметки о литературном мастерстве".

Генадзь Пашкоў, наш славуты энцыклапедыст, бы той увішны гаспадар, які не папянуецца падняць з дарогі і цвік і падкову, першым усвядоміў культуралагічную значнасць маіх разважанняў. Дзякуючы ягонаму клопату і ўбачыла свет гэтая кніга, што даўно зрабілася рарытэтам і прыцягнула і прыцягвае ўвагу нават вопытных майстроў пяра.

Нязвыклы да гэткай добразычлівасці і прыхільнасці, я вырашыў быць вельмі сціплым і паклаў на выдавецкі стол меней паловы рукапісу. Зараз не шкадую, што нямала якіх думак, разваг і меркаванняў не ўвасобіліся ў друкаванае слова: мінулае дзесяцігоддзе пераканала мяне ў тым, што літаратурнае майстэрства, вядома ж, вельмі важнае само па сабе, усё-ткі другаснае ў дачыненнях да светаразумення і светаўяўлення мастака.

Хтосьці з мудрых людзей мінуўшчыны, здаецца, Вергілій, усвядоміўшы важнасць масштабнасці думкі і вобразнага ладу паэта, выказаўся прыблізна гэтак: "Лягчэй забраць прашчу ў Геракла, ніж паўтарыць стыль Гамера".

На жаль, даводзіцца прызнаваць, што мы не ва ўсім пераўзышлі сваіх папярэднікаў. Раней лічылася добрым тонам для кожнага буйнога палітычнага і грамадскага дзеяча цікавіцца паэзіяй, ведаць лепшых паэтаў і падтрымліваць іх.



У розныя часы Старадаўні Рым меў да трох дзесяткаў школ граматыкаў. Былі яны і ў правінцыях. Кошт на іхнія паслугі быў вельмі высокі. І граматыкі, каб ва ўсім бляску паказаць сваё майстэрства, шырока выкарыстоўвалі гістарычныя, геаграфічныя, медыцынскія, філасофскія веды і нават правазнаўства.

Граматыкі вучылі людзей знаходзіць асалоду ў адукаванасці. Той свет, які грэх ідэалізаваць, яшчэ захоўваў сваю манументальнасць. Індывідуальныя надзеі не былі пазбаўлены перспектывы.

Цяперашнім часам адукаванасць, на вялікі жаль, зрабілася сродкам атрымання жыццёвых даброт, формай падрыхтоўкі да "бізнесу".

І сама па сабе адукаванасць сёння дэманструе сваю прыніжанасць, бо "глобализирующийся мир" цікавіць зусім іншае.

Але што яго цікавіць? Куды дзьмуць вятры? Што пагражае людзям, нацыям, іх культуры і цывілізацыі ўвогуле?

Вопыт апошняй паловы стагоддзя, што ў мяне за плячыма, гаворыць пра тое, што паўсюль у свеце рэальная духоўная культура спаўзае да прымітывізму. Пануюць пачорныя забабоны. Прымхі і дэмагогія рухаюць уладарамі і масамі ў значна большай ступені, ніж набыткі сусветнага духу і сусветнай навукі, і гэта гняце, змяншаючы шансы на ўсеагульную бяспеку, збалансаванасці хоць нейкую заможнасць.

Свет у сваіх пераўтварэннях (нельга сказаць "у развіцці") наблізіўся да чорнага зладзеснага краю. Шмат у чым гэта абумоўлена бяздарным і ганебным знікненнем з сусветнай арэны вялікай дзяржавы, якая першая прапанавала новыя падыходы да арганізацыі чалавечага жыцця і наўпрарок усім складанасцям рэальна наблізілася да ажыццяўлення рашэнняў, што выспявалі стагоддзямі.

На вялікі жаль, гэтыя рашэнні прыпазніліся, а на паверхню вылузнуліся шэрыя мутанты, мізэрныя імправізатары, нікчэмная драбнота ў параўнанні са сваімі папярэднікамі, якія не толькі ўсведамлялі, што твораць гісторыю свету, але і стваралі яе.

Свет духоўна раскалоўся, натуральна, і ў плане палітычным.

На адным баку аселі гегемоны Захаду, якія патрабуюць поўнасцю закрэсліць савецкі вопыт і пакорліва прыняць заходнія стандарты і заходнюю філасофію. Тут уся зграя ўрвіцеляў, хто хапнуў напоўніцу народнага багацця, альбо разлічвае ўхапіць.

На другім баку — абрабаваны народ, рэальныя нацыянальныя палітыкі, якія лічаць, што зніклая сістэма мела шмат буйных недахопаў, але і несла ў сабе шмат дабрыні, завяяванай грамадствам у найцяжкіх выпрабаваннях, — ад іх грэх адмаўляцца, тым больш, што Захад праяўляе двудушша і нецярпімасць і не гатовы прыняць памяркоўнасць, якая дала б і іншым народам доступ да прагрэсу і дабрабыту.

Іншыя аспекты праблемы я не краную: перспектывы ў іх вельмі цьмяныя, яны паступова размываюцца, трансфармуюцца, асядаючы на галоўных напрамках.

Пэўная частка беларускіх пісьменнікаў, асабліва з тых, хто бяздумна і некрытычна ўспрыняў пустую рыторыку часоў "перабудовы", фактычна прысягнула Захаду. У імгле сваёй недасведчанасці, яны альбо шчыра паверылі ў "нацыянальнае адраджэнне", альбо, ступіўшыся за гэтым позунгам, толькі робіць выгляд, што наіўныя. Тэхналагічна перыяд "нацыянальнага адраджэння" па найноўшых глабалісцкіх сцэнарах неабходны для канчатковага разбурэння "імперскага СССР" і стварэння паласы "надзейных сатэлітаў", што з цягам часу (па той жа схеме) хутка і беззваротна страцяць уласную эканоміку, уласную культуру і ўласную тэрыторыю.

Пісьменнікі гэтай групы, як правіла, атрымліваюць матэрыяльную падкормку і на гэтай хвалі падлізліва вітаюць добрасардэчнасць джэнтльменаў Захаду і "разумнасць" усяго ліберальна-дэмакратычнага ладу. А як жа: барацьба за існаванне, перавага мацнейшага, магутнасць рынку. А тое, што гэты рынак, захапіўшы ўсе сферы жыцця, разбурае сувязі паміж сумленнымі людзьмі і ўмацоўвае злачынныя "общакі" нягоднікаў — гэта "часовы недахоп", "выдаткі сістэмы".

Гэтыя пісьменнікі звычайна знаходзяцца пад шчыльным кантролем пенклубаўскага крыла і, як ні дзіўна (яны ж дзеячы нацыянальнага адраджэння!), цалкам салідарызуюцца з ідэалогіяй мондыялізму і касмапалітызму.

Яны нічога грунтоўнага не ведаюць пра масонства, пра "інтэрнацыяналізм", пра найноўшыя сацыялагічныя падыходы да асэнсавання гісторыі.

Гэтыя людзі, прынамсі, малацікавыя, духоўна несамавітыя, як звычайныя згоднікі ці здраднікі. Шчыра кажучы, ім няма чаго дэклараваць, апрача пафасных лозунгаў на карысць велічы свае нацыі, што выглядае камічна, бо сваімі канкрэтнымі паводзінамі яны прадаюць нацыю, і, як водзіцца, па дзяшоўцы.

Адчуваючы дрыгвістасць сваіх пазіцый, яны (вядомы псіхалагічны закон няўмольны!) ярасна кідаюцца на сваіх апанентаў, ані не грэбуючы ні хлуснёй, ні падманам, ні правакацыяй. Гэта, нейкім чынам, замяняе ім творчасць.

Мушу крыху сказаць і пра супрацьлеглае крыло нашай грамадскасці і нашых пісьменнікаў, да якога адношу і самога сябе. Гэтае крыло складае 70—80% усяго грамадства, і таму яно, натуральна, неадназначнае.

Але гэтае крыло абапіраецца на рэальнае гістарычнае жыццё народа. Гэта тое крыло, што не стогне, не зласлівіць і не здраднічае, а мужна ўскладае на свае плечы адказнасць за паўсядзённы побыт народа. Гэта працаўнікі, яны грэбліва ставяцца да паразітарнасці.

Менавіта тут знаходзіцца наш Прэзідэнт, які аддае ўсе сілы забеспячэнню суверэнітэту і незалежнасці краіны, яе эканамічнаму развіццю, сацыяльнай стабільнасці і культурнаму росквіту.

Ён абраны (ужо двойчы) бальшынёю народа, што не замінае "радыкалам" з апазіцыі нападаць на яго ад імя народа.

Зразумела, што ствараць і несці адказнасць за стварэнне невымерна цяжэй, ніж абурацца, выкрываць і пасвістваць у якасці староннягa наглядальніка, прапаноўваючы састарэлыя шаблоны згубных рашэнняў, што вядуць да прорвы.

Вядома ж, "гвардыя Прэзідэнта" — гэта розныя людзі. І па пасадах, і па сацыяльным статусе, і па светапоглядах. Прэзідэнт і не сіліцца прывесці ўсё да адзінага знамянальніка, хоць, на мой погляд, хранічныя праблемы ў нашай інфармацыйнай працы не садзейнічаюць павелічэнню свядомых і прынцыповых аднадумцаў, прыхільнікаў адзінай, магчыма, на тэрыторыі СНД народна-дэмакратычнай улады.

Кожны, хто не хлусіць сабе (пісьменнік у першую чаргу) бачыць, чаму нападаюць на Аляксандра Лукашэнку з усіх бакоў, — за тое, што ён паслядоўны і мужны змагар за гонар і справядлівасць нават у гэтых жорсткіх умовах навязанага нам "выжывання".

Пісьменнік — гэта, перш-наперш, чалавек гонару, гэта камертон грамадскай маралі. Я не разумею, як можна лічыць сябе грамадзянінам сваёй краіны, патрыётам і не падтрымліваць А. Лукашэнку.

Ды расплюшчыце ж вы шырэй вочы! Бачыце гэтыя чароды гаротнікаў, якія страцілі ўсялякую надзею? Адкуль гэтыя бясконцыя натоўпы беспрытульных? Адкуль жорсткасць і садызм, развал сем'яў, п'янства, наркаманія, заняпад маральнасці і традыцый?

Усё гэта паследкі разбурэння, з аднаго боку. З другога боку "натуральныя" наступствы "дэмакратыі", калі знікае таварыскасць і людзі робяцца сапернікамі і канкурэнтамі, якія адкрыта ці ўпотай жывуць па звярыных прынцыпах джунгляў: "Не піхнеш на дно таго, хто побач, дык сам там ляжаш!"

Зразумела, што авалодаць сакрэтамі сучаснай глабальнай палітыкі ў стане толькі тыя пісьменнікі, хто дзесяцігоддзямі плавіць уранавую руду бязлітаснай рэчаіснасці. Нахрапам ці злёту сапраўдную праўду нашага дня, асабліва тым, хто застаецца ў абцугах фарысейскіх догмаў марксізму, што абрабаваў, абскуб слынных карыфеяў свайго часу, каб зляпіць падобны на праўду містычны тупік. Пра тых жа, хто замбіраваны "ліберальнай" рыторыкай, няма чаго й казаць.

Лепшыя пісьменнікі абодвух лагераў ужо зразумелі, што іхнія "турнірныя" бойкі анічагуткі добрага не зычаць літаратуры і чытачу, толькі ўскладняюць жыццё грамадства. Народ, гэта ж відавочна, расчараваны ў сучасных літаратарах: заклікаюць, клічуць, а куды, дык і самі добра не ведаюць. Нешта пішуць, але ўсё тое іхняе крамзоленне, у пераважнай большасці, вельмі прыблізная і не зусім прыдатная ежа і па фарбах, і па смаку. А як паглядзіш больш уважліва, дык шчэ гарчэй на душы — малакультурнае, інтэлектуальнае ўбоства.

Час шукае адважных, смельчакоў, гатовых спасцігнуць новыя ісціны, што не пачуеш з інстытуцкай кафедры, не стрэнеш на старонках тонкіх і тоўстых выданняў, — гэтыя ісціны, быццам шаравыя маланкі прапальваюць НАША СЁННЯ і блукаюць па невядомых нам пуцявінах. Злавіць гэтыя маланкі, спасцігнуць іх сутнасць дадзена толькі тым, хто сапраўды любіць свой народ і гатовы за яго шчасце аддаць без ваганняў сваю галаву. Патрэбны падзвіжнік, патрэбна дасканалая Асоба, без якой сучасная дзяржава не зможа сябе абараніць.

У нас розныя погляды на ролю пісьменніка ў грамадстве. Адны лічаць, што ён ужо нічога не вінен людзям, — памалу клёпае свой бізнес-прадукт, чым і здабывае сабе і на хлеб, і да хлеба.

Але, на шчасце, ёсць і другія — упартыя змагары, каго матухна прырода змысліла ахоўнікамі свайго народа і нават народаў усёй зямлі. Яны пічаць творчасць пісьменніка формай найактыўнейшага ўдзелу ў нацыянальнай гісторыі, добра ведаючы і разумеючы, што барацьба этнасаў ужо стаіць на мяжы, выбілася на першы план, — яе аніяк не схаваць пад шыльдай "акцыі супраць тэрарызму".

Заўтра кожнага пісьменніка Час будзе ацэньваць у залежнасці ад таго, што ён зрабіў для ўмацавання і развіцця ладу народнай дэмакратыі, які зацвердзіўся ў Беларусі і які робіцца ўсё больш прыцягальны і жаданы для іншых краін і народаў. Але адначасова — і ўсё больш ненавісны ворагам сапраўднай дэмакратыі і сапраўднай Свабоды.

**Эдуард СКОБЕЛЕЎ**

## ЛІМ-ЧАСАПІС

# «ПЕСНЯЙ МОЙ ДУХ МАЛАДЗІЦЦА»

**Адбылося адно з апошніх мерапрыемстваў ў шэрагу прымеркаваных да святкавання 120-годдзя народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Праграма-прысвячэнне творчасці вялікіх песняроў стала завяршальным этапам у шматлікіх мерапрыемствах, якімі адзначана гэтае вялікае свята.**

**Наша дзяржава падтрымала самыя значныя і акцыі, прысвечаныя юбілею. Сведчаннем гэтага з'яўляецца і праграма Дзяржаўнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь "Песняй мой дух маладзіцца" па творах Янкі Купалы і Якуба Коласа, што прайшла ў сталічным кінатэатры "Масква".**

**У праграме прымаў удзел калектыў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі прафесара Міхаіла Фінберга. Салісты — зоркі беларускай эстрады Мікалай Скорыкаў, Уладзімір Аўчароў, Леанід Вайтовіч, Юрый Вашчук, Дзмітрый Качароўскі, Руслан Мусвідас, Аляксандр Яфімік, Галіна Грамовіч, Наталля Тамела, Яна, Таццяна Глазунова. Яны выконвалі песні на музыку кампазітараў Уладзіміра Будніка, Эдуарда Зарыцкага (адбывалася прэм'ера яго новага цыкла), Ігара Лучанка, Уладзіміра Мулявіна, Рыгора Пуксты.**

**Праграма створана на сродкі гранта фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва.**

**А. АНТОНАВА,**
**вучаніца 11-й гімназіі г. Мінска**

# ВЕЧАРЫНА Ў ДОМЕ ДРУЖБЫ

**Урачыстая вечарына "Якуб Колас у сусветнай культуры", прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння паэта, адбылася днямі ў Доме Дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Як адзначыў паэт Леанід Дранько-Майсюк, калі мы прамаўляем гэта імя, адразу пачынае гучаць беларуская пяшчота і трываласць, адчуваецца далучанасць да роднага паэтычнага суладдзя і звыклай нашай жыццёвай дарогі, да заўсёднага характва.**

**Перад прысутнымі выступілі прадстаўнікі дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Рэспубліцы Беларусь. Проза і паэзія песняра гучала на кітайскай, французскай, нямецкай, чэшскай, славацкай, казахскай, украінскай, балгарскай мовах. На вечарыне прысутнічалі намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь А.Герасіменка, пісьменнікі А.Сульянаў, Р.Баравікова, А. Вярцінскі, Н. Гальпяровіч, А. Бутэвіч, Л. Левановіч, Я. Лецка, Я. Янушкевіч, В. Іпатава, В. Стралко, І. Курбека, У. Скарынкін і іншыя, беларускія мастакі, навукоўцы, старшыні нацыянальных таварыстваў, прадстаўнікі грамадскасці. Ва ўрачыстасці таксама ўзялі ўдзел заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, дырэктар і мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі В. Анісенка, народны мастак, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь В. Шаранговіч, народны артыст Рэспублікі Беларусь, старшыня Саюза кампазітараў І. Лучанок, спявак Іван Краснадубскі, ансамбль цымбалістак Мінскага музычнага вучылішча пад кіраўніцтвам лаўрэата Міжнароднага конкурсу "Залатая струна" Ганны Полесавай, ансамбль "Славяне". Слова пра бацьку сказаў Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч. Экспанаваліся таксама ілюстрацыі В. Шаранговіча да кнігі Якуба Коласа "Новая зямля", што выдадзена сёлета на беларускай, рускай і польскай мовах Беларускім фондам культуры па заказе Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

**М.Р.**



## РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ УСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***

***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***

***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19,**
**тэл. 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

## Захарава, 19

**"Захарава, 19". Пад гэтай рубрыкай мы пачынаем друкаваць паведамленні аб творчай і грамадскай дзейнасці рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва". Тут вы зможаце даведацца пра змест рэдакцыйных партфеляў нашых часопісаў, атрымаць інфармацыю аб нашых кніжных выданнях, аб творчых сустрэчах супрацоўнікаў з чытачамі. Са снежня гэтага года пры газеце "Літаратура і мастацтва" пачынае працу літаратурнае аб'яднанне. Пра дзень і час яго першага пасяджэння вы таксама зможаце даведацца з рубрыкі "Захарава, 19". Вы станеце непасрэднымі ўдзельнікамі стваральнага літаратурна-мастацкага і грамадскага працэсу ў нашай краіне.**

## «МАЛАДОСЦЬ» РАСПАЧНЕ 2003 ГОД "РЭКАНСТРУКЦЫЯЙ НЕБА»

Менавіта гэтак называецца нязвыклы па форме і стылі раман у дэталях маладой пісьменніцы Вольгі Гапеевай. Як і сёлета, у наступным годзе большасць старонак часопіса будзе аддадзена творам тых, хто сёння робіць першыя, але нярэдка вельмі ўпэўненыя крокі ў літаратуры. Да вышэй згаданага рамана В. Гапеевай можна дадаць мадэрновую, напружаную па сюжэце і стылі аповесці А. Брава "Камендантскі час для ластавак", апавяданні Л. Дрожжа, А. Крэйдзіча, Л. Андзілеўкі, вершы В. Корбута, Я. Дашынай, А. Арашонка, В. Бурлак і інш.

Багаты на цікавыя творы раздзел "Сучасная літаратура". Сярод іх — вострасюжэтны раман з элементамі містыцызму А. Наварыча "Літоўскі воўк", дзеянне якога адбываецца падчас паўстання 1863—1864 гг., раман А. Казлова "Мінск і воран, Парыж і здань" пра прыгоды ў нашым часе прывіда князёўны, некалі гвалтоўна загубленай. Зацікавіць чытача і гістарычная аповесць А. Бутэвіча "Карапева не здраджвала каралю", новыя п'есы Г. Марчука і Ю. Станкевіча, апавяданні А. Глобуса, Л. Рублеўскай, У. Мiхно і інш. Свае новыя вершы чытачам прапанавалі Н. Гілевіч, В. Зуёнак, М. Мятліцкі, Ю. Голуб, С. Панізнік, М. Дукса і інш.

Будзе надрукаваны і кінасцэнарый "Анёл-ахоўнік" са спадчыны выдатнага беларускага кінарэжысёра М. Пташука.

Багаты рэдакцыйны партфель і на крытычныя матэрыялы. Гэта і артыкулы пра стан сучаснай беларускай літаратуры, і творчыя партрэты маладых пісьменнікаў, і шэраг артыкулаў вядомага літаратуразнаўцы В. Рагойшы.

"Народная культура і грамадства на мяжы двух тысячагоддзяў: пошукі, праблемы, перспектывы суіснавання" — так назваў сваю цікавую працу навуковец Я. Крук, якая пабачыць свет у першых нумарах "Маладосці — 2003".

Не менш цікавым падаецца рэдакцыі і шэраг артыкулаў К. Цвіркі пад агульнай назвай "Край легенд", якія прысвечаны нашай далёкай мінуўшчыне. І гэта далёка не поўны пералік матэрыялаў, якія часопіс мяркуе надрукаваць у першай палове 2003 года. Заставайцеся з "Маладосцю" — краінай маладога натхнення, юначых надзей і жаданняў, дзе пачынаюць разгарацца зоркі будучых класікаў беларускай літаратуры.

**Нашы індэксы: ведамасны — 00137, індывідуальны — 74957.**

**Падпісны кошт для індывідуальных падпісчыкаў — 2600 руб. на месяц. Кошт ведамаснай падпіскі складае 3 800 руб. на месяц.**

## «НЁМАН» ПРАПАНУЕ

У першым паўгоддзі 2003 г. "Нёман" сярод празаічных твораў у перакладзе на рускую мову прапануе — "Начныя

# «ПАРАДАКСАЛЬНА, АЛЕ ЧЫМ БОЛЬШ ДЭМАКРАТЫЧНАЕ ГРАМАДСТВА, ТЫМ МЕНШЫ НА ЯГО ЎПЛЫЎ ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ»

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)**

Савецкі Саюз зруйнавалі людзі, якія апелявалі да "сістэм каштоўнасцяў", што не мелі да эканомікі ніякіх адносінаў: абарона роднай мовы і традыцыяў, зганьбаваных нацыянальных святыняў і герояў. Ідэі кшталту амерыканскага "Маніфесту лёсу" ці філасофскай канцэпцыі "Масква — трэці Рым" трапляюць у свядомасць людзей не столькі праз навуковы аналіз, колькі праз эмоцыі, што адпавядаюць глыбінным народным пачуццям. Выказаць ідэю і жыць ёю — дзве вялікія розніцы. Калі б у амерыканцаў адсутнічала свая месіянская ідэя, свая "амерыканская мара", — не было б ні "дактрыны Манро", ні "плана Маршала". Але мы — беларусы — як бы не раскладалі іхнюю нацыянальную ідэю, глыбіннага сэнсу не адчуем. І наадварот. Калі мы гаворым пра Другую сусветную вайну, амерыканцы трагедыю нібыта і разумеюць, але імі авалодваюць іншыя эмоцыі. "Дух нацыі" вітае ў паветры, трэба яго распазнаць. І як толькі ідэя авалодвае людзьмі, яна становіцца матэрыяльнаю сілаю, яднае вакол сябе самааддадзеных людзей.

***М.Т. Сёння Злучаныя Штаты, калі ўжо зайшла пра гэту краіну гутарка, сімвал матэрыяльнага дабрабыту. Шмат хто хацеў бы жыць у такой краіне. Ды немагчыма спраектаваць чужы досвед на сябе? Да таго ж, мы - народ не багаты, людзям не да высокіх матэрыяў. Думаем, як сям'ю пракарміць.***

**В.Ц.** А. Тойнбі заўважыў, што важнейшым прынцыпам дасягнення нейкай мэты з'яўляецца не імкненне да гэтай мэты, а да таго, што знаходзіцца па-за яе межамі і ёсць нечым вышэйшым. Калі гнацца толькі за матэрыяльнымі дабротамі, ніколі іх не дасягнеш. Форд напачатку марыў стварыць народны аўтамабіль, на якім ездзілі б усе амерыканцы. Рэалізаваў мару — атрымаў і барышы, што спачатку не было галоўным. Ён нават на заводзе выступаў як прапаведнік... Значная частка эліты і абывацеляў постсавецкіх краін, асабліва Расіі, успрымалі ў заходняй сістэме толькі спажывецкія стандарты. І не заўважылі тонкай унутранай гульні заходняй культуры, сэнс якой у збалансаванні аскезы працы і задавальнення адпачынку. Не ўлічылі, што ў аснове каштоўнасцяў ляжыць пратэстанцкая этыка працы, якая і кастытуцыіравала амерыканскую нацыю.

Духоўнасць — частка эканамічнага жыцця, яна не можа быць імпарціравана з іншай культуры. Вы калі-небудзь бачылі маленькую дзяўчынку, якая спрабуе паходзіць на маму? Яна сядае перад люстэркам, фарбуе губы, наводзіць цені. Яна карыстаецца мамінымі духамі. Але ці становіцца падобнаю на дарослую жанчыну? Не, вядома. Ператвараецца ў сумную карыкатуру.

***М.Т. Думаю, ніхто не будзе спрачацца: без уліку нацыянальных традыцый звычайнае капіраванне можа сапраўды спарадзіць толькі карыкатуру. Нагадаю нашай нерашучасці ў эканоміцы з'яўляецца звычайны "комплекс непаўнацэннасці" нацыі. Мы адчуваем сябе бяднейшымі, абдзеленымі, якія не маюць перспектывы. Мы баімся, што нічога не зменіцца, і разам з тым усведамленнем і самі не змяняемся.***

**В.Ц.** Любы "сусветны парадак" устойлівы тады, калі кожны народ ведае сваё месца ў агульным доме. Любы зрух адбіваецца на іншых... На агульную сістэму каштоўнасцяў накладваюцца нацыянальныя фактары — менталітэт, мова, геаграфічная прастора. Нават калі на эмацыйным узроўні цяжка заўважыць розніцу між беларусамі і, напрыклад, рускімі, мы, вядома ж, іншыя. Неабходна вызначыцца якім чынам Беларусь можа стаць на сусветнай эканамічнай прасторы канкурэнтаздольнай.

А ў свеце мы адчуваемся. Напрыклад, у спорце. Радуемся перамогам хакеістаў і смуткуем з-за параз футбалістаў; нас цешыць, што трактар "Беларус" арэ канадскія палеткі, а "БелАЗ" ходзіць па дарогах Індыі ці Кітая. Гэта і ёсць нацыянальная самаідэнфікацыя. Мы ніколі не будзем бельгійцамі ці амерыканцамі хаця б таму, што жывём у іншым месцы. Свой менталітэт трэба супастаўляць з сусветнымі патрэбамі. І ўсё! А з усведамленнем сваёй "няшчаснасці" нельга жыць.

***М.Т. Фразу Кастуся Каліноўскага "Урад для народа, а не народ для ўрада" мы ўспрымаем вельмі прамалінейна, матэрыялізавана. А дзяржава павінна не толькі задавальняць сённяшнюю патрэбу чалавека ў кавалку хлеба, але й абапірацца на духоўныя здабыткі, якія могуць спрыяць і больш разумнай эканамічнай палітыцы.***

**В.Ц.** Мадэрнізацыя грамадства немагчыма без апоры на нацыянальныя традыцыі, культуру. Хоць і параўноўваюць эканамічныя законы з фізічнымі, маўляў, яны ўсюды аднолькавыя, стымулы і формы памкненняў розныя. Калі для амерыканца на першым месцы асабісты дабрабыт перад грамадствам і Богам, дык для японца, кітайца ці беларуса — павага грамадства, прызнанне пэўных заслуг. Праводзячы эканамічную палітыку, дзяржава мусіць яе падладкоўваць да менталітэту і духоўнай базы народа. У Германіі пры імператары Вільгельме І, які мілітарызаваў краіну, секта меннанітаў выступала супраць службы ў войску. Але нават ён стварыў адпаведныя ўмовы, бо лічыў іх рухаючай сілаю капіталізму, арыентаваў для астатніх немцаў. У ЗША нацыянальная ідэя амаль вычарпала сябе ў 1970-х гадах, тамтэйшая інтэлігенцыя пакутавала ад в'етнамскага сіндрому; аб Амерыку "выцiралі ногі" іранцы, СССР выйшаў у лідэры па ваеннай моцы, па штатах бадзяліся нагоўпы хіпі, дамінаваў нігілізм. Але прыйшоў Рэйган, пачаў постіндустрыяльную мадэрнізацыю, вызваліў нізавую прадпрымальніцкую энергію маладых білаў гейцаў, за лічаныя месяцы ўзраслі "новыя сярэднія слаі". І абноўленая амерыканская мара зноў заблішчала. У парыве патрыятызму ўдзячныя грамадзяне падымалі дзяржаўны сцяг, ганарыліся сваёю краінай. Невыпадкова ў сучасным свеце пануе тэндэнцыя да выхаду за межы нацыянальных дзяржаў, да рэлігійнай і глабальнай інтэграцыі. Нам, вядома, нельга пераскокваць фазу "нацыянальнай дзяржавы", гэта значыць фарміравання свайго "нацыянальнага капіталу" і свайго "нацыяналізму" — гэта фундамент самастойнага ўдзелу ў глабалізацыі. Разам з відавочнымі матэрыяльнымі выгодамі мы набываем аўтарытэт і натуральнае лідэрства як пасрэднік ці бісмаркаўскі "чэсны маклер".

***М.Т. Ні для кога не сакрэт - маральны ўплыў інтэлігенцыі на жыццё грамадства значна знізіўся. Сёння ў пашане чалавек багаты, хоць у шмат чым абмежаваны. Разам з тым літаратары, мастакі, настаўнікі, вучоныя маюць свой погляд на грамадскія працэсы, на недапрацоўкі ўлады. Гэ-***




"ўспаміны" патрыярха нашай літаратуры І. Шамякіна — яркія, мастацка-дакументальныя, шчырыя... Цыкл бліскучых навел вялікага майстра, чараўніка мастацкага слова І. Пташнікава пад агульнай назвай (і з агульным героем) "Ненапісаная аповесць". А таксама лепшыя апавяданні беларускіх празаікаў. З першага нумара часопіс распачынае новую рубрыку "Беларуская навела", якая будзе знаёміць з лепшымі набыткамі ў гэтым жанры за апошні час. Свае навелы прапанавалі І. Навуменка, І. Шамякін, А. Савіцкі, Я. Сіпакоў, П. Місько, А. Сульянаў...

З вялікай цікавасцю, на нашу думку, будзе сустрэты на старонках "Нёмана" новы раман Э. Скобелева "Завещание Сталина". Гэта — значны, панарамны, чытабельны гісторыка-публіцыстычны мастацкі твор. Аматарам гістарычнай літаратуры даспадобы прыйдзецца і новы раман С. Зайцава "Пепел и снег". Аўтар уваскрашае хвалюючыя падзеі Айчыннай вайны 1812 года, якія адбываліся таксама і на беларускіх землях. Хвалюючай чакаецца і сустрэча з новым раманам (на гэты раз — крымінальным) М. Герчыка "Оружие убийцы". Раман напісаны на падставе падзей апошняга часу. Сучасныя праблемы востра пастаўлены і ў аповесці Ф. Конева "Страсцей обитель". Нікога не пакіне абыякавым і сацыяльна-завостраная невялічкая аповесць Я. Росцікава "Дынаміт для Лаўрэата".

Замежная проза будзе прадстаўлена вострасюжэтным трылерам Фрэнсіса Кліфарда "Отель Шелли" і апавяданнем Ірвіна Шоу "Игрок".

Даволі шырока будзе прадстаўлена паэзія, як у перакладзе з беларускай мовы, так і рускамоўных аўтараў: Б. Спрынчан, А. Бажко, З. Марозаў, В. Палікаціна, П. Прыходзька, С. Яўсеева, У. Карызна, М. Стрыгалёў, Г. Бураўкін, В. Грышкавец, У. Мазго, В. Шніп і іншыя. Актыўна падтрымліваючы таленавітых маладых паэтаў, рэдакцыя рыхтуе і шмат дэбютаў у рубрыцы "Упершыню ў "Нёмане".

Праводзячы ў жыццё дзяржаўную палітыку, трымаючыся здаровага і разважлівага накірунку, часопіс прапануе шмат артыкулаў па пытаннях гісторыі, культуры, адукацыі, навукі, мастацтва, культуры, эканомікі, палітыкі... А таксама інтэрв'ю са знакамітымі людзьмі і дзеячамі.

Старонкі часопіса будуць прадстаўлены рэцэнзіямі на новыя кнігі, аглядам літаратурных жанраў, творчым партрэтам вядомых пісьменнікаў. Адбудзецца і "круглы стол" на тэму "Сучасная беларуская проза: час і герой".

**Індывідуальная падпіска (індэкс 74968)**
**на 1 месяц — 2500 рублёў**
**на 3 месяцы — 7500 рублёў**
**на 6 месяцаў — 15000 рублёў**

**Ведамасная падпіска (індэкс 00238)**
**на 1 месяц — 3500 рублёў**
**на 3 месяцы — 10500 рублёў**
**на 6 месяцаў — 21000 рублёў.**

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Нёман"**

***та людзі адукаваныя. Але іх думка не даходзіць ні да шараговага грамадзяніна, ні да ўладных структур.***

**В.Ц.** Сартр казаў: інтэлігенцыя можа быць толькі "леваю", што азначае – ставіць пад сумнеў існуючыя каштоўнасці. Такія стасункі — яе сутнасць ва ўсіх краінах. Роля інтэлігенцыі адчувальная ў "закрытым" грамадстве, і зніжаецца пры развіцці дэмакратыі. Парадаксальна, але чым больш дэмакратычнае грамадства, тым меншы на яго ўплыў творчай інтэлігенцыі. Возьмем "Литературную газету". У савецкі перыяд чытач мог атрымаць свежую, незапалітызаваную цэкоўскімі інструкцыямі інфармацыю праз літаратурныя творы. Цяпер газета мае значна меншы тыраж, бо людзі атрымліваюць звесткі з другіх крыніц.

***М.Т. А якая літаратура папулярная ў Амерыцы?***

**В. Ц.** Як і ў нас, адукаваны чалавек павінен ведаць пэўных аўтараў, класіку. Сярод масавага чытача папулярныя творы жанру фэнтэзі, інтэлектуальныя дэтэктывы. Мяне здзіўляла даволі масавая з'ява. У транспарце заўважаў шмат людзей з плэерамі. Думаў — слухаюць музыку. Аказалася — літаратурныя творы, надыктаваныя на касеты. Кнігу ўжо не чытаюць, а слухаюць...

***М.Т. Відаць, пра веданне там беларускай літаратуры няма сэнсу й гаварыць. Хаця ж і яна — твар нацыі, не толькі трактары ці халадзільнікі з тэлевізарамі. Чаму б не стварыць выдавецтва, якое якраз і займалася б перакладам лепшых беларускіх твораў на замежныя мовы і "прасоўваць" іх на Захад?***

**В.Ц.** Чаму б і не. Але трэба разлічваць на іншы менталітэт. Наша літаратура, як правіла, грунтуецца на беларускіх рэаліях, арыентавана на айчыннага чытача. Амерыканская ж, за выключэннем некаторых аўтараў, адарвана ад нацыянальнай глебы. Увогуле выбітныя аўтары — тыя ж еўрапейцы Сартр, Камю, Гессе, Кафка — касмапалітычныя па светаглядзе. Таму і цікавыя для ўсіх народаў. Возьмем дацкага філосафа і пісьменніка Сэрэна Керкегора. Ужо пасля яго смерці, падчас росквіту экзістэнцыяналізму з'явіліся нямецкія пераклады. Ён стаў запатрабаваным і вядомым. Можна паспрабаваць рэалізаваць вашу ідэю на адным, двух беларускіх аўтарах. Але яны мусяць быць культавымі.

***М.Т. Мне даводзілася чуць меркаванне, што нацыянальны характар беларуса адчуваецца і ў Амерыцы, дзе сярод беларусаў мала знакамітых, заможных. Тыповы беларус — сярэдні амерыканец.***

**В.Ц.** Зусім не. Проста беларусы ў нацыянальным плане (як і тыя ж немцы ці галандцы) не маюць моцнай этнічнай прывязаннасці і лёгка паглынаюцца мясцовымі ўмовамі, губляюцца. Хаця выхадзец з Беларусі Луіс Майер, які стварыў першую галівудскую кампанію, уваходзіць у спіс самых знакамітых амерыканцаў 20 стагоддзя. Кампазітар Ірвін Берлін — аўтар шматлікіх мюзіклаў і гімна "Божа, барані Амерыку"; самы высокаапалачваемы тэлежурналіст, гадавы заробак якога складае больш дваццаці мільёнаў долараў — Лэры Кінг; заснавальнік тамтэйшага радыё Дэвід Сарноў, бацька навуковай фантастыкі Айзік Азімаў...

***М.Т. Гэта выхадцы з Беларусі, але ўсё ж яўрэі. Іх жыццяпіс — асобная і грунтоўная гутарка. Я маю на ўвазе беларусаў этнічных, хрысціян...***

**В.Ц.** Так, яўрэі выжылі, таму што трымаюцца спрадвечных нацыянальных традыцый. Але яны на працягу 500 гадоў жылі побач з беларусамі. Я неяк заўважыў у Беларусі дарожны ўказальнік "Кібуцы". Падумалася, можа ізраільскія сельгаспадаркі названы кімсьці з тутэйшых? Не толькі беларускія яўрэі вядомыя. А Барыс Кіт? А Тадэвуш Касцюшка, помнік якому стаіць насупраць Белага Дома?

***М.Т. Мала пра яго ў нас ведаюць. Таксама — жыў чалавек, змагаўся за ідэалы Бацькаўшчыны і дэмакратыі, а памёр у самоце, ды й у памяці нашчадкаў займае не належнае яму месца. Увогуле з часам становішся прагматыкам, так і не можаш вызначыць кампраміс паміж свабодаю і выгодамі, становішся больш асцярожным і песімістычным. Цяжка знайсці кампраміс паміж сваёй зацікаўленасцю і патрэбамі грамадства. Можа, ведаеце рэцэпт?***

**В.Ц.** Памятаеце ў Амара Хаяма:

*Даже самые светлые в мире умы*
*Не смогли разогнать окружающей тьмы.*
*Рассказали нам несколько сказочек на ночь,*
*И отправились мудрые спать, как и мы.*

Гегель такія пошукі называе "хітрасцю думкі", калі чалавек імкнецца знайсці каштоўнасці для сябе і, не падазраючы, выбудоўвае сістэму каштоўнасцяў для грамадства. Паспрабуйце адказаць на пытанне: што лепш? Руская, кітайская ці японская культура. Ці паспрабуйце даказаць: што болей цывілізаванае — антычная грэчаская філасофія, рымскае права, вучэнне Буды і Канфуцыя, руская літаратура Талстога і Дастаеўскага, індыйская Дхаммапада ці канстытуцыя Джэфферсана. Гэта яшчэ нікому не ўдавалася.

**ПОШТА**

# «МАЁЙ ДУШЫ ХОЧАЦЦА СТВАРАЦЬ...»

Вітаю вас, шаноўныя чытачы і аўтары нашай газеты! А тое, што многія з чытачоў з'яўляюцца і нашымі аўтарамі — даўняя традыцыя. І яшчэ адна традыцыя, што склалася на працягу дзесяцігоддзяў існавання газеты: самая вялікая пошта прыходзіць на адрас аддзела прозы і паэзіі. Радасна напаткаць сярод лістоў сведчанне яркага таленту, або сустрэць прозвішча даўняга, шаноўнага аўтара. Але, вядома, далёка не ўсё з дасланага нам трапіць на старонкі. Гэта было б немагчыма нават з меркаванняў абмежаванасці друкаванай плошчы. Не заўсёды атрымліваецца і сустрэцца з аўтарам сам-насам, перамовіцца, паведаміць пра лёс яго рукапісаў. Таму, шаноўныя, будзем цяпер перамаўляцца проста на старонках газеты.

Умова — не крыўдаваць на рэдактарскія заўвагі і не лічыць, што калі вершы пакуль не падыходзяць да друку, гэта жыццёвая катастрофа і крыж на творчым шляху. Дарогу адолее той, хто ідзе — у творчасці гэта самы актуальны прынцып.

Вось першы ліст з літаратурнай пошты Надзеі Парчук з вёскі Вычулкі Брэсцкага раёна: "Маёй душы хочацца стварыць", — кажа нам спадарыня Надзея. І адчуваецца, што паэтычная творчасць стала для аўтаркі, чалавека нялёгкага лёсу, адхланнем, акенцам у лепшы, прыгожы і добры свет. З дасланага сшытка мяне найбольш крануў верш "Прызнанне", дзе ёсць такія радкі:

*"...Зямліца, родная зямелька!*
*Калі памру, сканаю я, —*
*Абдымеш ты сваю Надзейку,*
*І зноўку будзем мы — ўдвая. (?).*
*Атулім шчыра, нібы маці,*
*Я растваруся ўся ў табе,*
*Хай прарасту не благадаццю,*
*Але хоць кветачкай ў траве.*

Вядома, замест слова "удвая" належала сказаць "удваіх". Параю сп. Надзеі пільней сачыць за мовай сваіх вершаў, пазбягаючы русізмаў і "непаэтычных" слоў ("культурнай стала сенажаць", "і гнаў кароў дамоў Іван" і т. п.). Правільная думка, правільна зарыфмаваныя радкі — гэта яшчэ не верш. Пісаць лепш пра ўласнае; пра тое, што "я схавала красу сваіх мар ды не помню, куды палажыла", чым доўга зарыфмоўваць акалічнасці складаных узаемаадносін лісы і гадзюкі.

Просьба таксама да ўсіх аўтараў сачыць, каб "у" складовае і "ў" нескладовае "ўпісваліся" ў памер згодна правілам арфаграфіі.

Галіна Цыганкова з г. Клімавічы таксама мысліць глабальна, але, на шчасце, у яе ёсць асабістая прывязка ў творчасці — вершы, прысвечаныя дзецям, гучаць шчыра, чытаюцца лёгка. Мне здаецца, сімпатычны верш "Размова з сынам" магло б надрукаваць выданне, адрасаванае юным чытачам.

Спадар Анатоль Хітрык з вёскі Агарэвічы Ганцавіцкага раёна абраў асноўнай тэмай вершаў любоў да роднай зямлі. Тэма актуальная, але небяспечная ўхіламда публіцыстыкі, банальных, рытарычных выказванняў. Вядома, наша зямля заслугоўвае любові, бо і збожжа на ёй калосіцца, і птушкі прыгожа пяюць. Хацелася б толькі, каб паэт гаварыў пра гэта вобразамі, пажадана — арыгінальнымі. Але не занадта, бо ў вершы, які не прэтэндуе на мадэрновасць, дзіўнавата чытаць пра "сэрцы, запоўненыя пахамі хлеба". Яшчэ папрасіла б, каб вершы былі напісаны больш чытэльным почыркам — а раптам натрапіцца шэдэўр, які з-за немагчымасці расчытаць згубіцца ў рэдакцыйных архівах?

З Інай Амельчанкай, якая жыве ў Мінскім інтэрнаце № 10, і ўжо друкавалася ў "ЛіМе", хацелася б сустрэцца асабіста і, вядома, атрымаць новыя вершы. Гэта менавіта той выпадак, калі адбываецца спатканне з арыгінальнай паэзіяй, сапраўдным вобразным мысленнем і інтэлектуальнасцю. Іна, не згубіцеся!

Янка Лайкоў, таксама цікавы паэт, паспрабаваў сябе ў жанры апавядання. Пакуль што вершы ў яго атрымліваюцца значна лепей. Проза толькі на першы погляд "лёгкі жанр". І адным досведам на ніве паэзіі яе прамудрасцяў не адолець.

Фелікс Шкірманкоў — аўтар сталы, да таго ж, акрым здабыткаў на літаратурных палетках, мае "экзатычную" спецыяльнасць геолага. Экзотыка, як вядома, добрая ў пэўных дозах. Апавяданні, прапанаваныя для "ЛіМа", занадта "экзатычныя", дакладней, "геалагічныя". Асаблівасці працы геолагаў, вядома, рэч цікавая, але дарэчней пра іх чыталася б на старонках адпаведных выданняў, і неабавязкова літаратурных.

Вера Чарныш, якая даслала нам некалькі сваіх вершаў, выкіроўвае на сатырычна-гумарыстычную сцежку. Верш пра нос, відаць, навеяны бессмяротнай гогалеўскай аповесцю:

*Мой нос сябе высока носіць,*
*З вышыні на ўсіх глядзіць,*
*Кажу яму мо ўжо досыць —*
*Магу на месца пасадзіць.*

*Выгляд робіць, што й не чуе.*
*Як і жыў, так і ідзе.*
*Ужо і дома не начуе —*
*Вось і думай цяпер — дзе?*

Куды там нашым постмадэрністам! Няхай Вера Чарныш прабачыць, што мы не настолькі авангардысты, каб друкаваць пра нос, які "як гляне коса, хоць сама куды збяжы": чаго дабрага, чытачы не так нас зразумеюць. Праўда, у другім сваім творы паэтка прызнаецца, што сама сябе лупцуе, як крытык. Гэта абнадзейвае.

Прыемна бачыць, што ў "ЛіМ" звяртаюцца людзі самых розных пакаленняў. Ф. Краніху — 80 год, а Юлі Сабаленцы — 11. Пішуць і калектыўныя пасланні як, напрыклад, паэткі са Слоніма Алена Руж і Таццяна Тарасік. Яны з яшчэ адной паэткай, Ірынай Войткай, сабраліся ў "творчы саюз", займаюцца паэтычна-музычнай дзейнасцю, далучаюць усіх да творчай дзейнасці. "Нас так мала слухаюць дома...", — піша нам Алена.

Падобныя словы прамаўлялі паэты ўсіх часоў. Не здавайцеся, дзяўчаты! У вас ёсць паэтычныя здольнасці — калі вы навучыцеся чуць голас вялікай паэзіі, пачуюць і вас, і не толькі ў Слоніме.

Наталля Пятроўская, студэнтка універсітэта культуры, пакуль, падобна на тое, чуе толькі ўхвалы на адрас сваіх вершаваных спроб, а крытычныя заўвагі ўспрымаць адмаўляецца. Гэтак кволы парастак паэзіі, які прадзёўбваецца ў асобных яе радках, счэзне зусім, і песні "на прасторах жыцця", якія юная паэтка збіраецца співаць "сярод белага дня і ўначы", так і застануцца інфантыльнымі песнямі ў гонар сябе самой, дарагой і прыгожай. Паэзія — не карані, якія можна "прыкінуць" на сябе дзеля аздобы. Калі няма сардэчнага болю і гатоўнасці плаціць за вышыню ўсім, — калі няма нават спробы нешта спазнаць у Сусвеце, у сабе, нешта змяніць, а маецца толькі пэўная колькасць зарыфмаваных "прыгожанькіх" карцінак — не варта прэтэндаваць на званне паэта.

З вершаў Уладзіміра Гардзейкі, які жыве ў Камянцы Брэсцкай вобласці, я адабрала да друку два вершы. Яны, на мой погляд, добрыя. Асноўныя заўвагі — збой рытму, ужыванне русізмаў. Парадавалі і вершы Лявона Цімохіна з Маладзечна — сем з іх я здала для друку, а гэта ўжо добрая падборка. Калі надрукуецца — не магу сказаць дакладна. Крыўдна, вядома, але на паэтычную публікацыю — чарга.

Мініяцюры Ігара Пракоф'ева, як на мой густ, у большасці не дацягваюць ні да філасофскіх, ні да гумарыстычных вяршыняў, часта другасныя. Мініяцюра "Адзінае цэлае", напрыклад, інтэрпрэтацыя, і не надта ўдалая, вядомай усходняй прыпавесці. Але ёсць і знаходкі — тры аповеды я буду прапаноўваць да друку.

Вершы Ларысы Рабцэвіч-Бранавіцкай, думаецца, варта было б прапанаваць у адно з рэлігійных выданняў. Паўтаруся, што самыя правільныя, ісцінныя думкі будучы зарыфмаванымі, неабавязкова стануць мастацкім творам. А для выказвання рэлігійных пачуццяў нічога вышэй за ўжо вядомыя малітвы не можа быць, тым больш са сферы літаратуры.

Аляксандр Жураўскі з г. Лепеля ўжо аднойчы друкаваўся ў "ЛіМе". З апошніх дасланых ім у нашу рэдакцыю вершаў, на жаль, не адабралася нічога — ды й вершаў было ўсяго тры. "Бліны", дарэчы, падышлі б выданню для дзяцей. У вершы "Вярнуцца не госцем" добра гучаць апошнія два радкі.

Вядома, у адным артыкуле нельга ахапіць усе рукапісы. Але не крыўдуйце і не сумуйце, шаноўныя аўтары. Стварайце, дасылайце рукапісы ў "ЛіМ". З крытыкам трэба спрачацца не ў жанры крытычнай палемікі, а сваімі творчымі дасягненнямі. Якіх вам і зычу.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**рэдактар аддзела прозы і паэзіі**

# АПОШНІ СТРЭЛ ПА ВЕДЗЬМАКУ

**Трэба помніць: "Сказ" з'явіўся за 15 гадоў да пачатку перабудовы. Ён быў з тых твораў, якія рыхтавалі гэту перабудову, якія будзілі грамадства, клікалі да перамен... "Сказ" гаварыў: сорамна так жыць, таварышы пісьменнікі і ўсе іншыя творцы, навукоўцы, культасветнікі, педагогі, — сорамна! Інтэлігенцыя павінна нарэшце схамянуцца, выпрастаць спіну і сказаць сваё слова! Сказаць, што так жыць сорамна! Мільёны людзей ператварылі ў дачнікаў-рабоў 4-х сотак. Капайцеся ў гэтых градках, вырошчвайце гэтыя бубачкі — і будзьце шчаслівымі.**

**Гаворачы словамі Г. Бураўкіна, з'явіўся "Сказ пра Лысую гару" з яго здзеклівай іроніяй і ўражлівай панарамай маральнай дэградацыі грамадства". Надзіва дакладная характарыстыка і справядлівая ацэнка! Зрэшты падобных высокіх ацэнак было выказана ў друку вельмі-вельмі шмат. І таму прывядзем тут яшчэ толькі адну. Вось што пісаў у свой час народны паэт Рыгор Барадулін: "...Пры вонкавай аблегчанасці "Сказа" напісана ўсё ж бліскуча. І гэта мог зрабіць чалавек, які валодае словам, пяром на высокім прафесіянальным узроўні...".**

**Адразу ж, пасля таго, як паэма пайшла па руках і атрымала магутны рэзананс у грамадстве, пачаліся пошукі сапраўднага імя аўтара. І яны працягваюцца ўжо добрых 30 гадоў. За гэты час ужо некалькі разоў то затухала, то зноў высока ўздымалася хваля чытацкай цікавасці — хто ж аўтар, хто ж хаваецца за псеўданімам Францішак Вядзьмак-Лысагорскі?**

**У 1999 годзе "ЛіМ" пачаў новую хвалю пошукаў імя аўтара знакамітай паэмы 20-га стагоддзя — "Сказ пра Лысую гару". Тры гады мінула з той пары — час немалы і, мабыць, можна падвесці некаторыя вынікі. Ці будзе гэты новы пошук больш выніковым, чым папярэднія ў "Звяздзе", "Крыніцы" і другіх выданнях! Ці наблізіліся мы да пастаўленай мэты! Ці ўдалося ў рэшце рэшт апраўдаць пажаданні рэдакцыі "ЛіМа" да майго артыкула, што "...дылетанты — а дакладней, людзі, не задзейнічаныя ў пэўнай навуковай іерархіі, а значыць, незалежныя ад іншых меркаванняў, — часам рухаюць навуку наперад, вырашаючы тое, што прафесіяналамі прызнана невырашальным і не вартым таму разумовых высілкаў".**

**Я пачынаў гэтую апошнюю па часе размову, бадай, па гэтай прычыне маю нейкае права падвесці вынікі, тым больш, што ўсе, хто хацеў, — выказаліся, і час шмат што паставіў на сваё месца.**

**Хачу напомніць шаноўным чытачам, што пачынаючы апошнюю размову аб пошуках Ведзьмака-Лысагорскага я прапанаваў удакладніць падыход, якім дагэтуль карысталіся многія даследчыкі, маўляў, такую рэч можа напісаць любы паэт, — нават нейкі "берасцейскі дзядзька". Я прапанаваў шукаць аўтара "Сказа" толькі сярод тых, каму гэта па сіле зрабіць. Там жа я выказаў свае меркаванні наконт таго, што, на маю думку, трэба ўлічваць, каб знайсці аўтара "Сказа":**

**— Аўтар, хутчэй за ўсё, быў адзін.**

**— Аўтар павінен быць вельмі таленавітым у жанры сатыры і гумару.**

**— Яго жыццёвы і сацыяльны вопыт дазваляў апісваць пісьменніцкі асяродак "знутры".**

**— Ён валодае жывой народнай мовай.**

**— Яго творчы вопыт да напісання "Сказа" быў дастаткова значным.**

**Удзельнікі апошняй размовы ў друку на гэтую тэму спыніліся, можна лічыць, на двух імёнах — Ніл Гілевіч і Мікола Аўрамчык.**

**Вясной 2000 года "ЛіМ" правёў "гарбатку ў Шыпоў", дзе прысутнічалі Д. Бугаёў, Я. Малец, М. Тычына і аўтар гэтых радкоў. Напрыканцы размовы гаспадыня Людміла Рублеўская прапанавала патэлефанаваць абодвум кандыдатам на аўтарства і спытаць пра іх адносіны да "Сказа". Ніла Гілевіча ў той момант дома не было, а Мікола Аўрамчык ахвотна пагадзіўся выказацца і між іншым сказаў, што "...аўтара трэба вызначыць на падставе канкрэтнага аналізу пэўных стылёвых асаблівасцей, слоў, выразаў. Разгадка ў тэксце самага твора". Ну, а наконт свайго ўдзелу ў напісанні паэмы Мікола Якаўлевіч адказаў: "...калі і маю дачыненне, — дык толькі ўскоснае".**

**На падставе адказу нашага выдатнага лірыка ўдзельнікам "гарбаткі" можам зрабіць наступныя высновы: па-першае, непасрэдна творчага ўдзелу ў напісанні паэмы ён не прымаў; па-другое, удзел яго ў напісанні "Сказа" быў ускосны; па-трэцяе, нельга не пагадзіцца з ім,** што ў пошуках аўтара трэба ісці ад тэксту "Сказа", яе мовы, фразеалогіі: дададзім ад сябе — вершу (рытму, спосабу рыфмоўкі, характару смеху).

Здавалася б на гэтым можна і ставіць кропку: сам М. Аўрамчык катэгарычна адхіляе свой непасрэдна творчы ўдзел у напісанні паэмы. І чаму мы павінны яму не верыць? Мы то верым, але ж ёсць даследчыкі, крытыкі, пісьменнікі, якія дагэтуль упэўнены, што паэму напісаў М. Аўрамчык. У тым ліку і тыя, каго ўжо ніякімі доказамі не пераканаеш, бо іх няма сярод нас. Чытае, напрыклад, хто-небудзь у апублікаваным дзённіку М. Танка: "...Ну і маладзец М. А.! Напісаў ён яе на ўзроўні "Тараса на Парнасе" — і канешне ж вераць такому катэгарычнаму сцвярджэнню знакамітага паэта.


Мікола АЎРАМЧЫК

Дык вось, зыходзячы з характару сатырычна-гумарыстычнага бачання і ўспрымання рэчаіснасці паспрабуем вызначыць, ці пераклікаецца што-небудзь у творчасці Міколы Якаўлевіча са стылемі мовай "Сказа"? На маё разуменне — нічога, ці амаль нічога. Скажам, улюбёная яго паэзіі лірычная ўсмешка — гэта зусім не той смех, што ў "Лысай гары", дзе ён і саркастычна-з'едлівы і востра дасціпны і раскошна гратэскавы, нават сям-там па-народнаму грубаваты. Гэтак жа розніца паэзія М. Аўрамчыка і мовай і фразеалогіяй і рытмам. І гэта, зрэшты, натуральна. Паэзія М. Аўрамчыка безумоўна адмысловая, але зусім другога кшталту і вялікі дзякуй яму за гэта.

А што датычыць яго "ўскоснага дачынення" да напісання "Сказа", я асабіста спакойна гэта дапускаю. І вось чаму. Некаторыя з тых, хто сумняваецца ў аўтарстве Н. Гілевіча, прыводзяць галоўны аргумент, што ён сам "лысагорцам" не быў, ніколі туды не ездзіў і па гэтай прычыне мог не бачыць і ведаць пра ўсё тое, што там адбывалася. І на самай справе, адкуль ён ведаў, што Цвірка, напрыклад, самы першы згрукаў дом, якія архітэктурныя рашэнні прымаліся "лысагорцамі" пры пабудове туалетаў, якім чынам Кучар і Кавалёў папаўнялі свае запасы ўгнаенняў? Канешне ж, усё гэта і многае іншае добра ведалі тыя паэты і празаікі, якія мелі на Лысай гары свае лецішчы. Бясспрэчна, усё гэта выдатна ведаў і М. Аўрамчык. Думаю, што ён і мог быць асноўным "пастаўшчыком" фактаў і нават асобных эпізодаў з жыцця лысагорцаў. Толькі так, напэўна, трэба разумець "ускоснае дачыненне" М. Аўрамчыка да стварэння "Сказа". І калі гаварыць пра "лаўры", дык нізкі паклон яму і за гэта. У творчых пісьменніцкіх справах гэта не так і мала. Хрэстаматыйны прыклад: А. С. Пушкін падарыў М. В. Гогалю сюжэт "Мёртвых душ".

Вядома М. Аўрамчыку, як і аўтару паэмы, у свой час не хацелася "свяціцца" і ён праводзіў думку аб калектыўным аўтарстве. Значна пазней, калі яго імя было названа ў ліку аўтараў, ён не стаў адмаўляцца. Але ж не адмаўляліся і некаторыя іншыя прэтэндэнты на гэтыя лаўры. Ну, скажам, наколькі мне вядома, і П. Макаль, і Р. Няхай, а А. Астрэйка нават "даверліва" прызнаваліся, што іменна ён аўтар паэмы.

І дазвольце мне размову пра ўдзел М. Аўрамчыка ў стварэнні паэмы "Сказ пра Лысую гару" закончыць трохі фрывольнай спасылкай на сучасны польскі фальклор (спадзяюся, людзі з пачуццём гумару ўспрымуць яе без крыўды). Па-беларуску гэта гучыць так: польскія войскі Берлін бралі, рускія трохі памагалі.

Дарэчы, абараняючы імя славутага сатырыка Францішка Ведзьмака-Лысагорскага ад усякіх прымазаннікаў у "Звяздзе" (ад 12.02.1995) з'явіўся вершаваны зварот "Да чытачоў Беларусі" (на гэты раз Вядзьмак выступіў пад прозвішчам Люцыян Корч-Неасмалоўскі):

Я заяўляю афіцыйна:  
*Цэнь патрывожаны дарма*  
*Ні брата меншага, ні сына*  
*У Лысагорскага няма.*  
*Вядзьмак яго ў радню не клікаў,*  
*Не запрашаў у сваякі.*  
*Вядзьмак — адзін — адзіны лікам*  
*Адзін — навек і на вякі.*

Абвешчаны "ЛіМам" пошук Ведзьмака не толькі дазволіў даказаць сапраўднае аўтарства "Сказа", але і (што не менш важна) адкрыць прыналежнасць пяру Ніла Гілевіча многіх выдатных рэчаў апошняга часу, якія таксама падпісваліся псеўданімамі. Устанаўленне аўтарства гэтых твораў — адзін з самых пераканаўчых доказаў, хто сапраўдны аўтар паэмы.

Аб тым, што маўчаць Вядзьмак не зможа, ёмка сказаў Міхась Тычына: "Чвэрць веку жыву чаканнем, а што скажа пра наша XX стагоддзе слынны Францішак Вядзьмак-Лысагорскі. Няўжо змаўчыць, не адгукнецца на падзеі? Кагорта ж яго герояў-"лысагорцаў" не радзее, а з імі самімі адбываюцца такія метамарфозы, што і ўявіць было немагчыма".

"Сказ аб незвычайнай эпідэміі ў старажытнай Тутэміі", аўтары: Францішак Вядзьмак-Лысагорскі, Баркулаб Дамавік-Крывіцкі, Базыль Раскапэнда-Бабэцкі, Вавіла Ваймяцца, Зімавей Зюзя, Амільмян Заткала-Задняпроўскі.

"Сказ пра Лігу чыстакроўных", аўтар Мікалай Яцьвяг-Тубылец.

Усе гэтыя паэмы ёсць натуральны працяг твора Ведзьмака-Лысагорскага — не тэматычны, вядома, а стылёвы, — працяг той жа сатырычна-гратэскавай стыхіі, якая ў свой час прывяла ў захапленне чытачоў "Сказа пра Лысую гару". Нават у псеўданімах усіх шасці наступных паэм бачым той жа прынцып іх падбору, той жа прыём іх утварэння (з устаноўкай на незвычайнасць, на камізм: Раскапэнда-Бабэцкі, Заткала-Задняпроўскі і інш.). Іменна ва ўстанаўленні аўтарства гэтых паэм — адзін з самых прыдатных ключоў для "адмыкання" загадкі "Лысай гары". А сумнення ў тым, што вышэйпералічаныя творы належаць пяру Ніла Гілевіча, сёння ўжо ні ў каго, па-мойму, не павінна быць.

Лішнім доказам, што іменна Н. Гілевіч з'яўляецца аўтарам паэмы, што асобныя выразы, а то і часткі вершаў з яго твораў бяры і ўстаўляй у "Сказ". Асабліва гэта праследжваецца ў ранняй юнацкай паэме "Пабоішча" і ў вершаваным рамане "Родныя дзеці". Упершыню на гэта звярнуў увагу Янусь Малец ("Звязда". 19.03.1996).

**У "Пабоішчы":**  
*Арнольд, у вечным негліжэ,*  
*Не выбіраў сабе мішэні.*  
*Хадзіў па першым этажэ,*  
*Запхнуўшы рукі ў кішэні.*

**У "Сказе":**  
*Суседка з хаты ёй насустрач —*  
*Яшчэ спрасонку ў негліжэ:*  
*— Чаго ты прэшся гэтак шустра?*  
*Які кадук цябе глыжэ?*

***Паэма "Сказ пры Лысую гару" з'явілася ў 1971 годзе — у самы застойны час, калі ўжо "брэжнеўшчына" вяртала жыццё на старыя рэйкі... (У 1974 годзе выгналі Салжаніцына, у Беларусі Салжаніцына не было, але... з'явіўся Вядзьмак-Лысагорскі). Паэма ўскалыхнула, узрушыла ўсё застойнае, дрымлівае грамадскае жыццё. Хадзіла ў сотнях экземпляраў па руках... У Маскве таксісты прадавалі за добрыя грошы. Ні адзін твор беларускай паэзіі 2-ой паловы XX стагоддзя і блізка не знаў такога поспеху, такога ўсенароднага чытання не толькі з паперы, але і па памяці. Аб надзвычайнай папулярнасці гэтай рэчы сведчыць тое, што яе разабралі на цытаты, дэкламавалі цэлымі кавалкамі, або асобнымі строфамі ў застоллях і пры іншым зручным выпадку. Народ адчуў, што і ў нас ёсць "самавыдавецкая" літаратура, і ў нас ёсць творы афіцыйна неангажаваныя. Бярыце прыклад, смялей гаварыце праўду!***


Ніл ГІЛЕВІЧ

І Вядзьмак не стаў нас мучыць маўчаннем. Па гарачых слядах падзей і нават прадбачачы і апераджаючы іх была напісана паэма "Ачмурэнне", аўтар Баркулаб Дамавік-Крывіцкі. Праз год выйшла не менш выдатная паэма-размова "Гэй, наперад! Гэй, назад!", аўтар Базыль Раскапэнда-Бабэцкі. Заслугоўвае ўвагі яшчэ адзін вельмі злабадзённы і па-сапраўднаму дасціпны твор "Чаго хто варты...", аўтар Вавіла Ваймяцца".

Потым пайшоў шэраг з'едліва смешных "Сказаў":

"Сказ пра ватнік", аўтар Зімавей Зюзя.

**У "Родных дзецях":**  
*Ён кашлянуў без дай прычыны —*  
*Як знак на ўвагу ўсёй гурме,*  
*Ступіў наперад досыць чынна*  
*І гучна ўрэзаў рэзюме...*

**У "Сказе":**  
*Змітрок рыўком пайшоў наперад,*  
*Адкашляў хрыпку на хаду*  
*І з развароту, без паперак*  
*Абрынуў шквал на грамаду...*

Памер артыкула не дазваляе прывесці яшчэ шмат другіх параўнанняў (супадзенняў), але, спадзяюся, і гэтых дастаткова. А што тычыцца адступленняў у "Родных

# "МАЛАДОСЦЬ" У ГАСЦЯХ У СТУДЭНТАЎ

Як вядома, "Маладосць" з'яўляецца стартавай пляцоўкай для многіх літаратараў-пачаткоўцаў, тут друкуюцца творы (у тым ліку і маладых паэтаў і празаікаў), якія праз пэўны час могуць стаць хрэстаматыйнымі, заняць сваё пачэснае месца ў школьных праграмах па літаратуры.

Таму невыпадкова, што на сустрэчу з супрацоўнікамі гэтага часопіса, якая нядаўна адбылася ў Мінскім педагагічным універсітэце імя Максіма Танка, сабралася шмат студэнтаў, будучых выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры. Іх цікавіла ўсё: і стан сучаснай айчыннай літаратуры, і планы і перспектывы развіцця абноўленай "Маладосці", ну, і, вядома ж, уласная творчасць гасцей: Раісы Баравіковай, Алеся Бадака, Віктара Гардзея, Анатоля Казлова і Вольгі Куртаніч.

"Маладосць" павінна вярнуць сваю былую славу, стаць выданнем (сапраўды маладзёжным ні толькі па назве, але і па змесце і руху), якое адпавядае ўсім патрабаванням сённяшняга дня - вось галоўны лейтматыў сустрэчы.

На ёй таксама выступілі выкладчыкі педуніверсітэта паэт Мікола Шабовіч, крытык Янка Шпакоўскі, а таксама ягоная студэнтка маладая паэтка і аўтарка "Маладосці" Таццяна Сівец.

**Н. К.**

# "ДК ДАНС" БЕЗ ЗАНЯПАДУ

Тэатр "ІНЗЕСТ" (былы тэатр пластычнага гратэску "Жэст") — з'ява ў беларускім тэатральным мастацтве незвычайная. Бо гэта адзіны ў сталіцы калектыў, які можна назваць сапраўды эксперыментальным. 13 лістапада на вялікай сцэне ТЮГа ў рамках фестывалю пластычных тэатраў "Х- Традыцыя-2002" "ІНЗЕСТ" паказаў свой новы спектакль "ДК Данс", якому было б цесна ў невялікай камернай прасторы.

Спектаклі гэтага тэатра складаюцца з разнастайнай палітры сімвалаў, метафар, падтэкстаў. Тэатр без слоў вымушае не толькі арыгінальнымі рэжэсёрскімі, сцэнаграфічнымі вынаходкамі, а ПРАЎДАЙ. Праўдай пра наш час, пра нас саміх.

Расшыфроўку складанай сцэнічнай мовы "ДК Данса" трэба шукаць у назве спектакля: як вядома, "дэкаданс" — гэта заняпад у мастацтве. Аднак доўгае поўзанне акцёраў па сцэне падаецца хутчэй сімвалам заняпаду (у прамымі пераносным сэнсе) чалавечага духа, жыцця. Стваральнікі спектакля не хочуць верыць у тое, што народжаны поўзаць, не зможа лятаць. Таму рэжысёр "ДК Данса" В. Іназемцаў ставіць сваіх герояў на доўгія хадулі, якія метафарычна ўзнімуць іх не толькі з каленяў, але і над зямлёй, над будзённасцю. Надзьмутыя шарыкі вакол акцёраў — сімвал мараў, летуценняў, добрых жаданняў і памкненняў, якія ёсць у кожнага чалавека. Як і выбар: ці то свабодна глядзець у неба, ці то скарона ўтаропіцца вачамі ў зямлю. Героі спектакля выбіраюць апошняе — і тыя шарыкі, якія яшчэ не паспеў разарваць бязглузды натоўп, узлятаюць уверх.

Эфектна глядзіцца ў спектаклі персанаж з бензапілой, які ў пэўнай мізансцэне падпілоўвае хадулі. Але фінал "ДК Данса" аптымістычны: герой В. Іназемцава заклікае да перародзінаў чалавека, маючы на ўвазе, духоўнае разняволенне асобы, вызваленне ад рабства "народжаных поўзаць"...

Нагадаем, што тэатр "ІНЗЕСТ" не мае свайго пастаяннай сцэнічнай пляцоўкі, рэпертуарнай афішы. Спектаклі В. Іназемцава ўзнікаюць як нейкі выбух, незвычайнае азарэнне. Такімі няўлоўнымі вобразамі былі "REVERSIO-1" (1998 г.) і "Ёлка У" (2000 г.), якія пэўны час здзіўлялі, захаплялі ўдумлівага сталічнага тэатрала. (Дарэчы, тэатр "ІНЗЕСТ" шмат гастралюе па Еўропе, дзе даўно ў пашане пераважна аўтарскі, эксперыментальны тэатр). Цяпер жа прыйшоў час для "ДК Данса", які зроблены ў традыцыях японскага танца БУТО. Дарэчы, падчас фестывалю, на пытанне "Танец БУТО — што гэта?" спрабаваў адказаць таксама і японскі тэатр "Global Jinnen", які паказаў на сцэне ТЮГа монаспектакль "Камень".

**Д. ТАЯНОЎСКІ**

## ПАЭЗІЯ

**Мікола ВІЧ**



# У ВОСЕНІ КРАДУ ЛІСТОК АПОШНІ...

•

*Калі да прыходу*
*жанчыны застаецца ўсяго пяць*
*хвілінаў,*
*калі ад сыходу жанчыны*
*мінула ўсяго пяць хвілінаў,*
*ёсць сэнс на сябе азірнуцца,*
*адчуць асалоду самоты:*
*ці гэтая прыйдзе?*
*ці тая сышла назаўсёды?*

*Завесіўшы вокны —*
*ёсць сэнс разабрацца ў мінулым,*
*згадаць радавод да калена*
*N-цатага ад*
*першай радзімкі ці нават ад першае*
*скулы*
*на целе, з якога адлічваецца заняпад.*

*Прыпаўшы да люстра —*
*ёсць сэнс пажадаць даўгалецця,*
*заняцца любоўю, калі ўжо на тое*
*пайшло,*
*успомніць, як гэтым займаюцца*
*хатнія дзеці*
*ва ўмовах, калі пагасае нарэшце*
*святло.*

*Схаваўшыся ў ванне —*
*ёсць сэнс адрадзіцца самому*
*з жаночых пакутаў і рэбраў*
*самотных мужчын,*
*глядзець, як сцякаюць апошнія*
*кропелькі стомы,*
*і сэнс вырастае на месцы глыбокіх*
*маршчын.*

•

*Я выверну вочы свае навыварат.*
*Я пагляджу унутр.*
*Мая блізарукасць мяне*
*не ратавала,*
*Я аслеп на мінуту.*

*А потым усё ж пабачыў,*
*бы сонца ў люстэрку задняга віду,*
*цябе і свой мозг гарачы,*
*расталую Антарктыду.*

*Табе было весела там і ўтульна,*
*на ільдзіне ты вучылася плаваць,*
*а я,*
*каб ты хутчэй патанула,*
*вучыўся плакаць.*
*Унутр.*

•

*Ты раставала ў маіх руках,*
*цябе заставалася ўсё менш і менш...*
*Я бачыў твой нежывы працяг,*
*я прадчуваў свой верш.*

*Ты раствbooралася у маім імя,*
*ты не магла паспець*
*выйсці з трох літараў "О", "Л", "Я",*
*ты прадчувала смерць.*

*І тут мне стала цябе шкада,*
*я так хацеў табе штосьці сказаць...*
*А ў горле колам — тваё імя,*
*а на руках – сляза.*

•

*Прыйдзе восень — забярэ мяне*
*з сабою,*
*прыйдзе вецер — забярэ мяне*
*з сабою,*
*прыйдзеш ты — і спознішся,*
*як смерць.*
*Сэрца не паспее дагарэць,*
*гукі не паспеюць стацца словам,*
*словам не паспеюць адляцець,*
*стануць вокам, носам, ротам,*
*вухам,*
*цень мой не паспее звар'яцець,*
*цвелячыся з правільнасці рухаў,*
*тоячыся побач, не паспее*
*кава закіпець, і попел*
*прызямліцца не паспее на падлогу,*
*стане кава цёплаю вадою,*
*цыгарэты — мяккаю травою,*
*хата не паспее акалець...*
*Прыйдзеш ты,*
*і спознішся,*
*як смерць.*

•

*А мяне пашкадуе жанчына...*
*Быццам восень. І снег прынясе*
*на руках, як дзіця з аблачыны,*
*і аддасць яго, сонная, мне.*

*"Гэта леташні снег?" — запытаю.*
*І яна скажа ціха: "Ён твой".*
*...І сняжынкі нямыя растануць*
*пад гарачаю ейнай слязой...*

•

*Вяртаецца любоў мінулым лісцем...*

*У восені за голаю спіною*
*яе лісток жывы, апошні самы,*
*зрываю для цябе, мая любоў.*

*У восені краду лісток апошні,*
*нібы ў паэта восеньскую песню,*
*крою з прожылак пускаю,*
*быццам з вен.*

*Дару табе, як верш, лісток апошні,*
*гляджу на свет праз*
*цененькія жылкі:*
*і гэта ўсё, што здолеў напісаць*

*пра гэта*
*для цябе,*
*любоў мая.*

•

*а птушкі лятуць і лятуць*
*а дождж так ідзе і ідзе*
*і неба ў размоклую клетку*
*марнуецца ў шэрай вадзе*

*калі толькі скончыцца гэта*
*калі толькі скончыцца дзе —*
*я выйду з размяклае клеткі*
*пайду басанож па вадзе*

*і птушак я выпушчу з клетак*
*і дождж пазбіраю бы ртуць*
*калі толькі скончыцца гэтак*
*калі толькі скончыцца тут*

•

*У паэзіі прароцтва нараджаецца,*
*а ў табе маё дзіцятка спіць.*
*Можа быць, салодкія пад раніцу*
*вершы для мяне яно прысніць.*

*Спі, дзіцятка, спі, ты наша першае...*
*Можа быць, спытаешся пасля,*
*скуль ты...*
*Мама скажа: з вершаў.*
*А не з-пад буслінага крыла.*

**Марына НАТАЛІЧ**

# *Паэт*

*Рыгору Барадуліну*

1

*Босая зорка ў небе халодным —*
*Бяглянка-каханка твая —*
*Над вадой узляцела,*
*Каб не параніцца аб лязо асакі,*
*Аб калючыя позіркі чалавекаў,*
*Што паглядаюць скоса*
*На лёгкую і трапяткую...*

*А яшчэ яна — мама Куліна,*
*Палола лехі і не заўважыла,*
*Як на неба зайшла,*
*Мабыць, загледзелася*
*У васільковыя вочы Сусвету.*
*"Мама на неба пайшла", —*
*так кажуць малым,*
*якіх мамы*
*дачасна пакінулі на Зямлі.*
*І малыя даверліва слухаюць*
*І чакаюць спаткання давеку...*

*Але ты ўжо такі дарослы,*
*Што ведаеш пэўна —*
*Мама па небе босаю зоркай блукае*
*І ўсё думае пра цябе:*
*"Як ён там халадае адзін —*
*мой сынок, каласок, васілёк,*
*зеллейка баравое?.."*

*Босая зорка — твой лёс,*
*Суцяшэнне тваё і надзея:*
*Прайсці праз завалы жыцця,*
*Праз лясы бытавання людскога*
*І ў гасподзе нябеснай спаткаць —*
*Маму і слова-каханку,*
*Босую зорку.*

2

*...Я выбрала шкло,*
*паўпразрыстае і нязвыклае,*
*каб сказаць Вам пра Ваш*
*пераклад К.Л.*
*Ужо яго імя — Крыстофер —*
*Як водгук шкла,*
*Па якім злёгку праводзяць пальцам,*
*А Леандоэр — гэта ўжо позірк,*
*Які абдымае-аглядвае сам сябе.*
*Але я не аб ім.*
*Вобразы яго пры ім застаюцца —*
*Нам трошкі незнаёмыя,*
*чужаватыя —*
*Менавіта ад яго позірку.*
*Але гэтыя позіркі, цені, вокны і вочы*
*Вы перастварылі, пераказалі,*
*перапелі,*
*Перамалявалі на свой лад,*
*І я не ведаю — ці ён беларускі.*
*Мусіць, зусім не, —*
*Ён не беларускага колеру —*
*Шэра-балотна-замглёна-блакітнага,*
*Гэта колер паўночы —*
*Снежна-срабрыста-шаўковы...*

*Я пачала чытаць вершы,*
*Але чароўныя, дзіўныя гукі*
*Заваблілі мяне*
*Гуканнем паўночна-прыцішаных*
*мрояў.*
*І я забылася на словы —*
*Навошта яны?..*
*Так замроеная жанчына,*
*Забыўшыся на цэлы свет,*
*Павольна пераліває з далані*
*на далонь*
*Рачны жэмчуг;*
*Так прыгажуня перабірае пераліўы*
*шоўку*
*І забываецца,*
*Што яна самая прыгожая.*
*Шоўк жамчуговы*
*Пераліваецца святлом і срэбрам,*
*Зрэдчас з-пад імглы бліскае зорка —*
*І вельмі ціха наўкола...*
*Таму за словамі я не шукаю сэнсу —*
*Я слухаю ціхія шаўковыя гукі —*
*І цешуся з прыгажосці,*
*Створанай Вамі.*
*Вы так пераліпі "Вершы для Эльзы",*
*Што, слухаючы іх,*
*Безназоўная жанчына верыць,*
*Што яны — толькі для яе.*
*І безумоўна дзякуе...*

* * *

*Мне да душы белыя аблокі*
*На сініх абсягах нябёсаў,*
*Падобныя на пёрыйкі,*
*Што адвеяліся ад птушыных*
*крылаў.*

*Але час-почас сунуцца хмары,*
*Глеіста-шэрыя, як балотная твань,*
*Што паглынае сінечу, спакой*
*і радасць.*

*Я не адзіная, каго яны душаць —*
*Цяжкія, гнятлівыя, глухія.*
*І душы жывых і памерлых*
*Пачынаюць нерававацца.*

*Агніцы, маланкі, бліскавіцы*
*Узрываюцца чырванню,*
*Шматуюць чарнечу на кавалкі,*
*А залевы і стогнуць, і плачуць,*
*Змываючы бруд, цяжар і гаркоту.*

*І нябёсы пакрысе свяжэюць,*
*Набрыняючы святлом і паветрам.*

*Выплываюць з-за небакраю аблокі —*
*Лёгкія, чыстыя, бялюткія:*
*Не сумуй!*
*Мы заўсёды вяртаемся,*
*Як птушкі на радзіму...*

# АРАКУЛ НЕ ПАМЫЛЯЕЦЦА

Генадзь АЎЛАСЕНКА



Чалавек ішоў па вуліцы. Павольна, абыякава. Без усялякай пэўнай мэты. А побач з чалавекам ішоў дождж. Не моцны, але дастаткова непрыемны для людзей без парасона.

Чалавек, які ішоў па вуліцы, належаў акурат да гэтай катэгорыі людзей. Тым не менш, дождж, выдавала, аніякім чынам не перашкаджаў яму. Больш за тое: чалавек нават не заўважаў, што ўжо нейкі час побач з ім ідзе дождж. Чалавеку было зусім не да дажджу, тым больш, што ён хутка скончыўся...

—Навошта мне было задаваць Яму акурат гэтае пытанне? — сам сабе мармытаў чалавек. — Навошта мне наогул выпаў гэты выйгрыш? І што мне рабіць зараз?

Адказу ў чалавека не было. Яго і не магло быць. І выйсця таксама не было. Аніякага выйсця, бо — Аракул ніколі не памыляецца. Прынамсі, чалавек не ведаў ніводнага такога выпадку.

А дзень пачынаўся добра, нават надзвычай добра пачынаўся для чалавека сённяшні дзень. І, можа, з гэтае прычыны ён і вырашыў наведаць Аракула сёння, а не адкладваць гэты візіт, як ён ужо рабіў некалькі разоў... Чаму ён яшчэ раз не адклаў яго?!

І ў Доме Аракула ўсё таксама ішло спачатку надзвычай добра. Нават чаргі амаль не было. Паказаўшы сваю ганаровую сінюю картку маўклівым ахоўнікам у серабрыста-бліскучых камбінезонах, чалавек праз нейкае паўгадзіны са звычайным унутраным хваляваннем заходзіў у такую знаёмую чорную кабіну. Чалавек меў права на два пытанні ў год. Ажно на два пытанні! Ён ведаў, што існуюць людзі, якім дазволены і тры і чатыры, можа наваті пяць пытанняў на працягу года, але ён ім не зайздросціў. Па-першае, такіх людзей, калі яны і сапраўды існавалі, было мала, вельмі мала. Па-другое, куды больш было людзей, якія мелі права ўсяго толькі на адно-адзінае гадавое пытанне да Аракула. І, зразумела ж, былі людзі, якія наогул былі пазбаўлены гэтага ганаровага права. Іх, такіх людзей, было б больш за ўсё. Сельскі люд, жыхары ўскраінных кварталаў сталіцы, правінцыялы. Усе яны, зразумела ж, зайздросцілі такім, як ён. Нейкі час чалавек моўчкі стаяў у кабіне і чакаў. Але вось вакол успыхнула такое знаёмае асляпляльнае святло, і кабіна імгненна і чароўна пачалаператварацца: з чорнай яна стала сіняй, потым зялёнай і нарэшце ярка-чырвонай. Гэта азначала, што асоба чалавека ўстаноўлена, што ўсё ў парадку і што ён можа, нарэшце, задаваць першае пытанне.

Нягледзячы на тое, што многія яго знаёмыя, ён ведаў, гандлявалі пытаннямі, і за вялікую плату, чалавек ніколі не апускаўся да гэтага. Ён заўсёды задаваў толькі свае пытанні, свае асабістыя, хоць і ў строга акрэсленых рамках дазволенага. Вось і зараз, атрымаўшы адказы на свае пытанні, чалавек ужо збіраўся пакінуць кабіну, як раптам па сценах зноў прабегла рознакаляровая гама і аднекуль зверху пачуўся голас:

— Віншую вас, таго, хто мае права на пытанні! — выразна і даволі ўрачыста прамовіў голас. — Ваш нумар, які ўдзельнічаў у латарэі пытанняў, выйграў! Вам дазволена задаць Аракулу дадатковае пытанне на любую тэму!

"На любую тэму?"

У першы момант чалавек нават разгубіўся. Не тое, каб у яго не было больш аніякіх пытанняў, хутчэй наадварот, — пытанняў было шмат, занадта шмат. Разгубіўся ж ён якраз з-за іх шматлікасці і немагчымасці за некалькі кароткіх хвілін выбраць з іх самае важнае, самае неабходнае яму зараз. І, можа, акурат таму чалавек і спытаў аб тым, аб чым ні ў якім разе нельга было пытацца:

— Калі я памру?

— Сёння, — ветліва, як заўсёды, адказаў Аракул.

Чалавек наўрад ці ўсведамляў, як ён выйшаў з кабіны, як пакінуў дом Аракула, як прайшоў паўз серабрыста-бліскучых ахоўнікаў. Ён наогул амаль нічога не цяміў, не чуў і не бачыў вакол сябе...

Нейкая дзяўчына з вялікім чамаданам у руцэ, па ўсім відаць, з правінцыі, сустрэлася яму ў вузкім пераходзе. Убачыўшы, што ім не размінуцца, яна прыціснулася да сцяны, але чамадан перашкаджаў ёй — занадта ён быў вялізны. І чалавек стукнуўся левым каленам аб вострую металічную акантоўку гэтага злашчаснага чамадана.

Рэзкі боль у калене, здаецца, дапамог чалавеку хоць крышку прыйсці да памяці. Ён пацёр калена далонню і, паднябшы галаву, паглядзеў на дзяўчыну. Позіркі іх сустрэліся. І чалавек зразумеў, што дзяўчына адразу ж прызнала ў ім прадстаўніка вышэйшай касты.

— Прабачце! — прашаптала яна дрыжачымі вуснамі. — Я не знарок, я не хацела...

— Нічога, я сам вінаваты, — чалавек зноў паглядзеў на дзяўчыну, але ўжо больш уважліва. — Ты з правінцыі?

Яна сцвярджальна кіўнула і чамусьці пачырванела пад яго позіркам. З іх правінцыйнага пункту гледжання, усе прадстаўнікі вышэйшых каст — звышнатуральныя, амаль містычныя істоты...

Чалавек не адчуваў у сабе нічога звышнатуральнага, тым не менш увага да яго сціплай персоны была прыемная, нават калі ўвага гэтая зыходзіць усяго толькі ад дурненькай правінцыйнай дзеўчынёхі. Калі б яна толькі ведала праўду...

Чалавек уздыхнуў.

— Вы на мяне і праўда не сярдуеце? — дрыготкім голасам спытала дзяўчына і яшчэ больш пачырванела.

—Сапраўды! — чалавек зноў паглядзеў на дзяўчыну і ўсміхнуўся. — А ты прыгожая!

— Яшчэ што скажаце! — дзяўчына наўпэўнена паціснула плячыма і таксама ўсміхнулася ў адказ. — Я звычайная.

Дзяўчына і сапраўды была прыгожая. Нават вельмі прыгожая. Толькі адзенне выдавала ў ёй правінцыйнасць. Адзенне і яшчэ — вочы. Трывога, разгубленасць, страх перад вялікім горадам. І адначасова надзея на нешта незвычайнае, на нейкі цуд, які абавязкова напаткае яе тут, у сталіцы, — усё гэта жыло ў вялікіх блакітных вачах дзяўчыны. І чалавек з жалем адзначыў, што міне ўсяго некалькі тыдняў і гэтая надзея знікне. Яна заўжды знікала самай першай...

— Ты дзе спынілася? — спытаў чалавек і, кінуўшы хуткі позірк на велічэзны чамадан, адразу ж зразумеў, што пытанне не мае сэнсу. І праўда, блакітныя вочы дзяўчыны тут жа напоўніліся слязьмі.

— Я пайшла да сястры, але мне сказалі, — яна змоўкла на імгненне, — што там яна больш не жыве...

— Зразумела, — сказаў чалавек. — Тады табе лепш за ўсё вярнуцца дадому.

— Вы так мяркуеце? — дзяўчына глядзела на яго спалоханым звяркам. Надзеі больш не было ў яе вачах, там быў боль. І нейкі незразумелы адчай. — Але ж гэта немагчыма! Я не магу вярнуцца. Толькі не гэта!

Апошнія словы яна амаль што пракрычала яму прама ў твар. Пракрычала нават з нейкай злосцю, і чалавек прыміральна паціснуў плячамі.

— Як сабе хочаш, — ён глядзеў на дзяўчыну і са здзіўленнем адзначаў, што яна змагла застацца прыгожай нават у сваім гневе. — І што ты думаеш рабіць?

Гнеў дзяўчыны патух гэтак жа раптоўна, як і ўспыхнуў. Прабегла і знікла, пакінуўшы на твары адзін толькі бязмежны адчай.

— Не ведаю, — ціха сказала яна і адвярнулася.

Нейкі час яны маўчалі. Яна — мужна, але беспаспяхова змагаючыся са слязамі, ён — цішком любуючыся яе юнацкай свежасцю і прыгажосцю. І чалавеку раптам захацелася хоць чымсьці дапамагчы ёй.

— Добра, — сказаў ён. — Пойдзем да мяне. У мяне шмат пакояў, можаш выбраць любы. Пажывеш пакуль, а там... Там будзе відаць...

Слёзы ў дзяўчыны імгненна высахлі, у іх зноў ззялі іскрынкі надзеі на цуд.

— Праўда? — ціха, як не верачы яшчэ, спытала яна. — Вы не жартуеце?

Чалавек нічога не адказаў. Ён толькі ўсміхнуўся.

— Вы не пашкадуеце! — у вачах дзяўчыны ззяла такое бязмежнае шчасце, што чалавеку стала нават крыху не па сабе. — Вы ні аб чым не пашкадуеце, вось убачыце!

І тут чалавек успомніў дом Аракула, і сваё недарэчнае пытанне, і адказ, які атрымаў на яго. Сёння ён павінен памерці. Павінен, бо — Аракул ніколі не памыляецца!

Дзяўчына глядзела на яго, як на звышнатуральную Істоту, як на Бога, а ён... Ён не быў Богам. Ён быў чарвяком, звычайным, вартым жалю чарвяком, на якога наступілі і нават не заўважылі гэтага...

— Прабач, — сказаў ён і, адвярнуўшыся, дадаў: — Я пажартаваў, я нічым не магу дапамагчы табе...

І ён пайшоў прэч ад дзяўчыны. Ён стараўся выкінуць яе з галавы і не мог гэтага зрабіць. Ён адчуваў на сабе яе позірк, адчуваў доўга, нават тады, калі дзяўчына ўжо ніякім чынам не магла яго бачыць. Ён ішоў, а ў змучанай галаве ягонай не было аніводнай уцямнай думкі. Хаця — не, адна, нават дзве думкі там усё ж былі. Першая: "Навошта было задаваць Аракулу тое пытанне?" І другая: "Аракул ніколі і ні ў чым не памыляецца!"

Пачуўся віскат тармазоў, і чалавек, спахапіўшыся, убачыў, што стаіць каля пешаходнага пераходу. Запалілася зялёнае святло. Чалавек наважыўся быў зрабіць першы крок, як раптам спыніўся. А што, калі гэты пераход і ёсць тое апошняе, што наканавана бачыць яму ў сваім жыцці? Што, калі варта яму зрабіць крок, усяго толькі адзін крок, як уся гэтая нерухома застылая плойма машын ірванецца з месца і панясецца на яго? Ён уявіў самога сябе, бездапаможнага, малога раструшчанага чарвяка на брудным асфальце, і яго аж скаланула ад агіды і жаху. Не, ён не пойдзе туды. Ён падмане смерць, ён пасмяецца з яе і выжыве, і пражыве сённяшні дзень. А заўтра яму ўжо нічога не будзе пагражаць. І тады...

Тады атрымліваецца, што Аракул можа памыляцца? Не, ён ведае, што гэта немагчыма! Чалавек павінен памерці сёння, бо так сказаў Вялікі Аракул. Ён проста абавязаны памерці сёння! Аніякім чынам ён не мае права перажыць сённяшні дзень!

Але чалавек не хацеў паміраць! Ні сёння, ні заўтра! Ён хацеў жыць, жыць доўга, жыць... Калі толькі не памрэ сёння, бо інакш...

Інакш выходзіла, што Вялікі Аракул усё ж здольны памыляцца. А гэта азначала крушэнне ўсяго таго, у што чалавек верыў з самага першага дня свайго свядомага жыцця, з чым жыў ён усё сваё свядомае жыццё, жыў да сённяшняга дня...

Чалавек павольна ішоў тратуарам. Ён стараўся трымацца далей ад праезджай часткі дарогі. Але раптам, выпадкова зірнуўшы ўгору, чалавек зразумеў, што ісці каля сцяны будынка яшчэ больш небяспечна. І тады ён спалохана хіснуўся ўбок ад яе. Але і гэта не прынесла чалавеку заспакаення.

Небяспека была паўсюль. Яна пазірала на чалавека вачыма кожнага прахожага, што таропка абмінаў яго альбо ішоў насустрач. Кожны з іх, бяскрыўдных з выгляду людзей, мог нанесці чалавеку смяротны ўдар. І чалавек асуджана і пакорліва чакаў гэтага ўдару. Але людзі даганялі яго, ішлі побач і беглі далей, і кожны быў заняты сваімі клопатамі, і нікому не было аніякай справы да чалавека. І да яго панічнага страху за сваё жыццё...

І чалавек крыху супакоіўся.

Напэўна, гэта адбудзецца не тут, не зараз... Можа, у яго яшчэ ёсць нейкі час, можа нават не адна гадзіну часу, бо дзень яшчэ ў поўным разгары. Але можа быць і так, што ўжо ідзе апошняя гадзіна, нават хвіліна ягонага жыцця...

Чалавек дастаў з кішэні тонкую белую насоўку і сутаргавым рухам выцер узмакрэлы лоб.

Яму трэба дабрацца да сваёй кватэры! Як мага хутчэй яму трэба дабрацца туды — там ён будзе ў бяспецы! Ён замкне дзверы, ён зачыніцца на ўсе магчымыя засоўкі, ён выключыць электрычнасць, не дакранецца ні да нажоў, не да відэльцаў, ні да запалак! Ён ляжа ў ложак і будзе ляжаць у ім, ціха і нерухома, аж да заўтрашняй раніцы...

А раптам ён памрэ ў сне? Такое таксама здараецца часам. Раптам здарыцца што-небудзь непрадбачанае ў суседняй кватэры? Такое таксама магчыма... А яшчэ на дом, у якім ён жыве, можа зваліцца зверху вялізны пасажырскі аэробус... Іх трасы пралягаюць якраз непадалёку, а ён, на сваю бяду, выбраў кватэру на самым верхнім паверсе...

Чалавеку раптам здалося, што ён вар'яцее. Не, так нельга. Ён не павінен увесь час думаць аб смерці. Ён павінен паводзіць сябе так, быццам нічога не здарылася, быццам нішто не пагражае яму. Ён павінен... Ён сам пойдзе насустрач небяспецы!

І чалавек пайшоў назад. Вярнуўся да пераходу, пастаяў крыху, чакаючы зялёнага святла. Потым ён ішоў па пераходзе. І ніводная машына не скранулася з месца. І чалавек раптам адчуў, што ён атрымаў толькі што невялікую перамогу над самім сабой. І вусны чалавека перасмыкнула на імгненне нейкая дзіўная, невясёлая ўсмешка.

А потым ён доўга і знарок павольна ішоў каля самай сцяны супернебаскроба. Ішоў і напружана чагосьці чакаў. Але нічога не здарылася, нічога не звалілася на яго зверху, аніводнага, нават самага маленькага каменьчыка. І чалавеку зноў здалося, што ён атрымаў нейкую новую перамогу, і зноў ягоныя вусны скрывіла ўсё тая ж невясёлая ўсмешка.

Чалавек нібыта гуляў з самім сабой у нейкую дзіўную смяротную гульню-латарэю, і яму пакуль шанцавала. Гэта і сапраўды была незвычайная, страшная гульня. Але, акрамя страху, у ёй прысутнічала і нейкая своеасаблівая асалода, дзіўнае, трывожнае, незнаёмае дагэтуль пачуццё ўласнай чалавечай велічы і ўласнай чалавечай годнасці. Ніколі яшчэ чалавек не адчуваў такіх незвычайных пачуццяў. І ён ужо амаль ні аб чым не шкадаваў...

Заныла нечакана калена, і чалавек машынальна пацёр яго рукой. І не адразу ўспомніў, чаго яно можа ныць. А потым успомніў вялізны чамадан. І яго ўладальніцу. І чалавек зразумеў раптам, што ён, як апошні дурань, прайшоў міма свайго шчасця. Прайшоў і не заўважыў гэтага. І ён зразумеў, што, магчыма, гэта ягоны лёс! І тады чалавек павярнуўся і пабег — туды, да месца першай і адзінай іх сустрэчы. Ён бег, не звяртаючы ўжо ўвагі ні на машыны, ні на твары прахожых... Ён быў ужо іншым, зусім іншым. Не тым, заўсёды законапаслухмяным і прыгнечаным чалавечкам, які так смешна, па-дзіцячы радаваўся сваёй прыналежнасці да вышэйшай касты і свайму праву на два пытанні ў год. Ён больш не пойдзе да Аракула. Ён ніколі не пойдзе да яго. Ён сам будзе вырашаць усе свае пытанні. І жыць ён будзе ўжо зусім паіншаму, не так, як раней. Калі толькі... Калі толькі Аракул здольны памыляцца...

А ў гэты сам час дзяўчына ў старамодным правінцыйным адзенні ўваходзіла ў дом Аракула. Вялізны і цяжкі з выгляду чамадан яна несла лёгка, без усялякіх намаганняў. Пры ўваходзе ў будынак дзяўчына крыху запаволіла крок, звычна-няўлоўным рухам паказала вартаўніку ў серабрыста-бліскучым камбінезоне невялікую ярка-чырвоную картку. І вартаўнік, імгненна выцягнуўшыся перад дзяўчынай, гучна шчоўкаў падкаванымі абцасамі, а потым яшчэ доўга і аддана глядзеў у след...

У ліфце дзяўчына заказала патрэбны паверх, потым уважліва паглядзела на чамадан і націснула на нейкі выступ на ягонай ручцы вялікім пальцам. І тут з бліскучай металічнай акантоўкі чамадана вымкнулася тонкая, амаль непрыкметная іголачка. Яшчэ імгненне — і іголка знікла, нібыта яе і не было. Дзяўчына ўздыхнула, паглядзела на гадзіннік. І зноў уздыхнула...

Таму незнаёмцу заставалася жыць усяго некалькі хвілін...

Дзяўчына зноў уздыхнула. Шчыра кажучы, ёй было шкада гэтага высокага, маладога яшчэ чалавека... Ён быў не проста сімпатычны, але, што рэдка здаралася, нават у яе гусце. І пры нейкіх іншых абставінах яна б не мела нічога супраць больш блізкага знаёмства з ім. А, можа, і не толькі знаёмства. Праўда, усё гэта было б магчыма ў нейкіх іншых абставінах...

Бо Аракул ніколі не павінен памыляцца!

# УСЕМАГУТНЫ САКСАФОН!

Сведкамі прыемнай падзеі былі наведвальнікі канцэрта саксафонавай музыкі. Ён прайшоў у зале другога корпуса Беларускай акадэміі музыкі і стаўся своеасаблівай справаздачай, вынікам працы Томаса Хаберкампа ды ўдзельнікаў яго майстаркласаў. Гэты спецыяліст з Германіі не першы раз наведвае музычную ВНУ нашай краіны і ўжо традыцыйна развітваецца з ёй такім паэтычным шляхам— арганізуючы сваіх беларускіх выхаванцаў у духавы ансамбль.

Канцэртпрыемна здзівіў тым,што ў калектыве музыкантаў паядналіся як спанатраныя саксафаністы, так і зусім маладыя выканаўцы. Але гэта акалічнасць ніяк не адбілася на якасці гучання ансамбля: партыя кожнага інструмента арганічна ўлівалася ў агульную гукавую плынь. Сапраўды, калі поруч прафесіяналы, узрост не адыгрывае ніякай ролі. Гучанне амаль усіх магчымых разнавіднасцяў саксафона на агульнай сцэне стварала ўражанне адзінай, поўнай разнастайных тэмбраў акустычнай атмасферы.

Слухачы маглі ацаніць не толькі здольнасць выканаўцаў іграць разам,але і сольныя выступленні, якія дазволілі музыкантам прадэманстраваць выдатнае валоданне інструментам і свае дасягненні ў інструментальным інтанаванні. Паводле слоў Томаса Хаберкампа,падчас заняткаў ён засяроджваў увагу на якасці менавіта інтанавання і навыках ігры ў ансамблі. Мэты майстра былі паспяхова дасягнуты і пацверджаны красамоўным вынікам — канцэртнай праграмай. Яна, да ўсяго, парадавала сваёй надзвычайнай разнастайнасцю. Прагучала англійская музыка 16 ст., джаз, найноўшая музыка мяжы 20—21 стст., якая ўразіла сваёй незвычайнасцю непадрыхтаваных слухачоў. Тыя, хто добра ведае творы Ё. С. Баха, атрымалі магчымасць пачуць музыку выдатнага нямецкага кампазітара ў нетыповым для іх гучанні ансамбля саксафаністаў.

Маладыя беларускія выканаўцы шчыра імкнуліся паказаць найлепшыя якасці свайго таленту. Гэтае памкненне, здаецца, было натхнёнае самой асобай нямецкага майстра, які выступіў у канцэрце і як дырыжор, і як піяніст-акампаніятар, і як удзельнік ансамбля. А калі наш госць выканаў складаны сольны твор, у слухачоў не засталося сумневу: сустрэчы з Томасам Хаберкампам беларускаму духавому выканальніцтву — сапраўды на карысць.

**Марына МРАЧКО,**
**студэнтка III курса БАМ**

# ЛЮБІМЫЯ МЕЛОДЫІ

У зале Нацыянальнага тэатра оперы Беларусі прагучалі любімыя мелодыі многіх аматараў музычнага мастацтва: рамансы, арыі з опер рускіх, французскіх, італьянскіх, аўстрыйскіх кампазітараў. Канцэртпачаўся з "Ave Maria" Д. Качыні, "Лебедзя" К. Сен-Санса ў выкананні Ганны Гур'евай. Своеасаблівай прэм'ерай стаўся дуэтРамэо і Джульеты з аднайменнай оперы Ш. Гуно ў выкананні Ірэны Журко ды Аляксандра Жукава.

Выступіла новая салістка тэатра выпускніца БАМ Настасся Масквіна, якая разам з Эльвірай Рыжановіч праспявала дуэт Лізы і Паліны з оперы П. Чайкоўскага "Пікавая дама" і баркаролу з "Казак Гофмана" Ж. Афенбаха.

На ўзроўні майстэрства былі Аляксандр Краснадубскі — лёгкі, шчыры, артыстычны, Міхаіл Жылюк — музычны, выразны ў ваканальна-сцэнічным вобразе, Яраслаў Пятроў — уладальнік чароўнага баса.

Бліскучым было выступленне Алены Шведавай з іспанскай песняй К. Дэліба і куплетамі Алімпіі з "Казак Гофмана". Парадавала слухачоў і Алена Сало, якая з уздымам выканала "Сегідылью" з оперы Ж. Бізэ "Кармэн", "Элегію" Ж. Маснэ. Дарэчы, выкананне "Элегіі" аздобіла не толькі піяністка Ларыса Талкачова, але і віяланчэліст Аляксей Афанасьеў.

Падрыхтавала праграму канцэрта і яго салістаў канцэртмайстар Ларыса Талкачова. Раяль у яе гучаў, як заўсёды, у суладдзі са спевакамі. Поспех падзяліла і вядучая Маргарыта Захарыя, якая дадала да атмасферы вечара свой яркі штрых.

**Вера КРОЗ**

ЮБІЛЕІ

# КРЫТЫК, ВЫШЭЙШЫ ЗА ЎСІХ

*Цяперашнім студэнтам журфака БДУ, дзе ўжо шмат гадоў выкладае доктар філалагічных навук, прафесар кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь, славутая кіназнаўца Ефрасіння Бондарава, лічу, пашчасціла. Іх вучыць чалавек насамрэч захоплены мастацтвам кіно! Бо менавіта праз стасункі з ім, кінематографам, многія вучні Ефрасінні Леанідаўны зрабіліся знакамітымі людзьмі: кінарэжысёр І. Дабралюбаў, дакументалісты В. Дашук, А. Алай, Р. Ясінскі, аніматар А. Белавусаў...*

*25 лістапада Е. Бондарава будзе святкаваць славуты юбілей. У яе творчым мінулым засталіся "гады з кінематографам", кнігі "У кадры і за кадрам", "Час, экран, крытыка", "Кіно Савецкай Беларусі", "Кінастужка даўжынёю ў жыццё", "Экран у розных вымярэннях", "Кінематограф і літаратура: творы беларускіх пісьменнікаў на экране", "Ад сэрца да сэрца". Сёння знакаміты беларускі кінакрытык Е. Бондарава марыць напісаць манаграфію "Гады з кінематографам".*



**— Ефрасіння Леанідаўна, сёння беларускі кінематограф перажывае не лепшыя часы. Прынамсі, сёлета на кінастудыі "Беларусьфільм" зроблена толькі адна айчынная карціна — "Паміж жыццём і смерцю" Д. Зайцава. Аднак, калі гартаеш беларускі кіначасопіс "На экранах", узнікае ўражанне, што ў нас ўсё добра. Адкуль у журналістаў бярэцца гэты пафас, узнёслы і нават сентыментальны настрой!**

— Ведаеце, у нас пануе такі настрой, што быццам з беларускім кіно не адбываецца нічога трывожнага. Хаця, я так не лічу. Нават калі карціна Зайцава ўдалася, прыстойная па ідэйных вартасцях, то радавацца тут няма чаму. Тыя часы, калі на кінастудыі здымалася 12-15 стужак штогод прайшлі, іх ужо не вернеш. Сёння не рэалізуюцца нават тыя планы, у якіх мы разлічвалі на 5-6 даволі прыстойных стужак. І я ўжо не кажу, якую з тых карцін, што мы цяпер чакаем, можна будзе назваць сапраўды нацыянальнай стужкай, звязанай з праблемамі беларусаў...

**— Але ж на "Беларусьфільме" ў вытворчасць "запушчаны" ўжо другі буйнабюджэтны нацыянальны кінапраект — "Легенда пра Анастасію Слуцкую" Ю. Ялхова.**

— Так, можа, у будучым і пагляндзім цікавую гістарычную карціну. Тым больш, што для гэтага ёсць падставы: майстра-аператар Т. Логінава, таленавіты рэжысёр Ю. Ялхоў, які таксама добра ведае магчымасці кінакамеры, цудоўныя купалаўскія акцёры. Але ж гэта не вырашае праблему, якая, на мой погляд, заключаецца ў тым, што кінематограф як мастацтва даволі аб'ёмнае і рухомае павінна адлюстроўваць тое, што адбываецца з грамадствамцяпер. Адлюстраванне сённяшніх падзей у нашым кіно няма. Бо няма сур'ёзных пісьменнікаў, якія б працавалі для кінематографа. Чаму мы ўзняліся ў 60-70-я гады? А таму, што на кінастудыю прыйшлі таленавітыя пісьменнікі, якія паверылі ў мастацтва кіно. А каго вы ведаеце зараз? Не, такога апытымізму, які пануе ў нашым часопісе "На экранах", я не падзяляю, хаця і ўваходжу ў яго рэдкалегію. Але, відаць, калі мае калегі пішуць такія бадзёрыя матэрыялы, значыць, вераць у будучыню беларускага кіно.

**— А ці хочацца пісаць?**

— Гэта вы правільна адчулі, што мне не хочацца пісаць. Увогуле, наша крытыка, мне здаецца, пастарэла, а маладыя людзі ў гэтую прафесію не дужа ідуць. Стан нашага кінематографа даволі трывожны, а ў крытыцы — зусім безнадзейны. Мне асабіста не хочацца рэцэнзаваць кароткаметражныя фільмы ("малалітражкі", як я іх называю) з тым жа імпэтам, як поўнаметражныя. І ўступацьу спрэчкі з тымі, хто піша пра кіно лёгка і, можа, не заўсёды адказна, я таксама не хачу, бо гэта не мае ніякага сэнсу. Неафіцыйныя газеты зараз вельмі вольных нораваў, а дзяржаўныя выданні не бяруцца за сур'ёзныя кінаагляды. Маўляў, эканамічна не выгадна, ніхто не будзе чытаць...

Вось у кніжыцы, прысвечанай рэжысёру В. Тураву, якую я пісала з натхненнем, сапраўды "ад сэрца да сэрца", мне хацелася шчыра, высакародна распавесці пра тое лепшае, што ў нас было ў кіно. А ў 60-70-я гады ў нас было рознае кіно, у тым ліку, і даволі прыстойнае. Прынамсі, карціны Турава. Праўда, апошнія яго

ТЭАТР

# ПЛАСТЫКА ВОЎЧАЙ ЗГРАІ

*Пра гэты спектакль не хочацца пісаць. Хочацца проста заплюшчыць вочы і аднавіць у памяці "размерны слоў паток" — напеўную, чысцюткую беларускую мову, узгадаць радкі, вартыя суседства з лепшымі творамі паэзіі "серебряного века". Яшчэ раз паразважаць аб вечным супрацьстаянні сытай няволі і галоднай свабоды, аб жыцці і смерці, аб мужнасці і адказнасці за аднойчы прынятае рашэнне. Гэты спектакль — "ПЕСНІ ВАЎКА" Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі.*

— на яве гучыць як смяротны стогн. На той самай доўгачаканай волі адзін заўсёды паляўнічы, а другі — дзічына. І няма ніякай ўпэўненасці, што заўтра дзічынай на паляванні не станеш ты ці твае блізкія, як гэта здарылася са зграяй Даўганогай. "О Божа, лютасці на свеце калі канец?" — у роспачы над забітымі родзічамі пытаецца адважная ваўчыца. Але адказу няма. Ёсць толькі надзея — нішто нездарма на гэтым свеце, пакуль ёсць тыя, хто здольныя ў пошуках праўды "прайсці свой хросны шлях ад кроку і да кроку".

Спектакль па сутнасці — прытча, якая ў алегарычнай форме прапануе

Тут песні — не толькі ў назве. Сам спектакль — адзіная невыказна прыгожая песня. Услухайцеся, якое меладычнае нават само вызначэнне ягонага жанру — драматычна-пластычная элегія. Гэтыя словы трапна характарызуюць арганічнае спалучэнне пластычнай аранжыроўкі Уладзіміра Лаўрухіна і лірычнай, сапраўды "жалобнай песні", прыдуманай Вячаславам Паніным і пераказанай па-беларуску А. Вольскім. Аўтар п'есы — В. Панін, цяперашні кіраўнік Маладзёжнага тэатра эстрады, што на Маскоўскай вуліцы. Рэжысёр-пастаноўшчык усіх масавых святаў сталіцы лічыцьдраматургію сваім "другім хлебам". Хоць і былі "Песні ваўка" адразу пасля напісання запатрабаваны для пастаноўкі ў тэатры імя Вахтангава са славутым Міхаілам Ульянавым, але прэм'ера тады так і не адбылася. Так што права першай пастаноўкі п'есы дасталася нашаму Тэатру беларускай драматургіі.

Месца падзей п'есы — Вальер і неабсяжны Стэп. Паміж гэтымі супрацьлегласцямі і даводзіцца выбіраць воўчай зграі. Ах, як усё хораша, спакойна было да выступлення красамоўнага ідэаліста Клыка, які паставіў зграю перад неабходнасцю гэтага выбару! "Свабоднае, цудоўнае звяр'ё" год за годам пладзілася, ела ад пуза, спала ў волю, а каб зусім тлушчам не заплыць, раз у год наладжвала Дзень вялікіх гонаў за ўпушчанай у вальер ланню. Здавалася б, жывi і радуйся, але не — падавай "інтэлігенту" Клыку нейкую песню, якой ніхто не памятае, а красуні Даўганогай — сапраўдныя ловы ў вольным стэпе. І вось ужо няма спакою ў душах, высакародныя звяры грызуцца як шакалы — кожны за сваю праўду. Праўда Старой ваўчыцы — няспынны бег, рамантыка свабоды. "Чаго мы дасягнулі ў вальеры? — пытаецца ў зграі Старая Ваўчыца. — Што нам даць тым, хто прыйдзе пасля — магчымасць сыта крочыць да магілы?" Важак зграі Дзед, яго паплечнікі Шэры і Рваны Бок навучаны жыццём: спакой і ежа — гэта не так ужо і мала. "Гніллё, хваробы, гразь і тло" — вось што такое свабода для Рваннага Бока, які таксама па—свойму клапоціцца пра дабрабыт зграі і яе будучыню. Але перамагае ўпартая маладосць— Даўганогая вядзе зграю ў той самы неабсяжны стэп, у пагоню за аленем сваёй мары. І толькі тутпрыходзіць разуменне: што здавалася песняй у сне

кожнаму падумаць над вельмі істотнымі, агульначалавечымі пытаннямі. Ад акцёраў такая п'еса вымагае высокага майстэрства і гранічнай шчырасці. Таму "ў бой" былі кінуты лепшыя акцёрскія сілы тэатра: выдатная пара Людміла Сідаркевіч — Ігар Сігоў, Валерый Кашчэеў, Галіна Чарнабаева, малады і перспектыўны Максім Паніматчанка, іншыя артысты РТБД. Таксама да ўдзелу ў "Песнях ваўка" былі запрошаны двое славутых акцёраў з іншых тэатраў — ролю важака Дзеда ў змену выконваюць народны артыстРБ, купалавец Генадзь Гарбук і заслужаны артыст РБ, акцёр Рускага тэатра Эдуард Гарачы.

Пастаноўшчык "Песень ваўка" Уладзімір Арлоў — больш вядомы як кінарэжысёр. У спектаклі РТБД спрактыкаваная рэжысёрская рука адчуваецца перш за ўсё ў цэльнасці спектакля. Як кажуць, ні адняць, ні дадаць — усё да месца, усё своечасова і "у тэму". На сцэне — каманда, сапраўдная "зграя", дзе кожны ведае сваё месца. Складаную задачу — перадаць ваўчыную пластыку, не скаціўшыся да крыўляння, — рашалі ўдваіх Уладзімір Лаўрухін і Ігар Сігоў, акцёр тэатра, які ўжо трады-

фільмы былі трохі слабейшымі, хаця і стараліся на нацыянальнай глебе. Зараз я і не знаходжу беларускага рэжысёра вось з такім адкрытым сэрцам...

**— У нас даўно не было фільма-падзеі, які змог бы выклікаць дыскусію ў грамадстве, друку.**

— Зараз нападзе жанравае кіно, яно, так бы мовіць, выратоўвае кінатворцаў, а чалавек з яго няшчасцямі, турботамі, надзеямі, калі яны ёсць, застаецца недзе ў баку, ён эканамічна не выгадны гэты чалавек. Такі час, відаць, трэба перацярпець. Дзесяцігоддзі два. Тады кінематограф ці зусім растворыцца ў глабалізме, ці з'явіцца ў нейкай новай форме. Старое кіно ўжо не адродзіцца. Толькі пад уплывам настальгіі мы будзем глядзець гэтыя добрыя, замілавальныя фільмы мінулага стагоддзя.

Шкада, што цяпер усе гоняцца за амерыканскім кінематографам. Многія мінскія кінатэатры сёння пераводзяцца на долбі-гук. А ў іх жа нашыя сціплыя карціны не пакаж?! Кінатэатр "Змена", дзе можна было паглядзець нацыянальную кінапрадукцыю, аказаўся эканамічна не выгадным і яго скасавалі. Я асабіста не прыхільніца долбі-гуку, прызнаюся вам шчыра. Сучасныя тэхналогіі наогул не даюць магчымасці сканцэнтравацца на тым, што адбываецца з чалавекам на экране. Ва ўсіх гэтых бавіках, "фэнтэзі", на мой погляд, няма сапраўднага жыцця.

**— Ефрасіння Леанідаўна, я бачу вас амаль на кожным кінапраглядзе, якія ладзіць "Кінаклуб". Многія з вашых вучнях-кінакрытыкаў не прыходзяць на гэтыя кінапаказы, а вы заўсёды іх наведваеце. Гляджу і здзіўляюся.**

— Вы думаеце, я магу толькі да кінатэатра "Перамога" дакрочыць? Я нават у "Аўрору" ездзіла, каб паглядзець цікавую мне стужку. Бо ведаць, адчуваць, бачыць — гэта мая форма існавання ў мастацтве, я без яе не магу, я сябе так выхавала. Заўсёды павінна быць нейкае інтэлектуальнае насычэнне. Наваткалі я пра нешта не пішу, я павінна пра гэта ўсё роўна ведаць, бо без супастаўлення нельга сказаць нешта сваё арыгінальнае ў крытыцы. Павінен быць запас, з якога можна будзе заўсёды нешта выкарыстаць, нават свае крытэрыі вывесці і не адступацца ад іх. Бо зараз, калі бегчы за крытэрыямі, што прапануюцца на фестывалях ці нават у прафесійным часопісе "Искусство кино", то, далібог, звар'яцееш. Калісьці Максім Горкі гаварыў, што кінакрытык павінен быць вышэйшым па інтэлекце за стваральнікаў фільма.

Гутарыла
Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА

ПРЭМ'ЕРЫ

# ІХ ЦАЛУЕ СВІТАНАК

***Напярэдадні адкрыцця сезона ў Коласаўскім тэатры рэжысёр Віталь Баркоўскі паказаў спектакль па сваёй п'есе "І нас пацалуе світанак".***

***Спектакль пра тых, хто трапіў у бяду. І бяда гэта — наркотыкі. Сюжэт пастаноўкі амаль дэтэктыўны, таму што гісторыя юнакоў, што трапілі ў пастку наркамафіі, звязана і з пасадаю іх бацькі, і з кар'ернымі інтрыгамі, і з сур'ёзным перадзелам рынкаў.***

Рэжысёр В. Баркоўскі даследуе механізм Трагедыі, які замыкае сюжэт у круг, гоніць яго і персанажаў па ім, не знаходзячы выйсця. У жыцці ўсё паўтараецца: і памылкі, і шкадаванні, і надзеі, і пакуты, і... смерць. Нам здаецца, што нашае жыццё — выключнае, таму што яно — нашае. А высвятляецца, што ніякай выключнасці няма.

Спектакль "І нас цалуе світанак" створаны ў стылі харэдрамы (тут пластычны тэатр суадносіцца з тэатрам драматычным), адкрытым В. Баркоўскім у пастаноўцы "Зямля" паводле твораў Якуба Коласа. Гэтаму рэжысёру ўласціва дзіянісійства ў пошуку пачатку творчасці. У памкненні знайсці нешта зусім нечаканае, раней незнаёмае, ён разбурае традыцыйную форму, змешвае "фарбы", каб адшукаць новы "колер". У такіх спектаклях няма фіналаў. На сцэне ў любы момант дзеянне можа ці то выпадкова скончыцца, ці то доўжыцца яшчэ некалькі часоў.

У спектаклях Баркоўскага акцёры звычайна працуюць на мяжы сваіх магчымасцяў, ствараючы нечаканыя для сябе вобразы. У "Світанку" гэта робяць Пётр Ламан, Рыгор Лойка, Зінаіда Ліневіч, Святлана Жукоўская, Раіса Грыбовіч, Галіна Букацііна. Харэограф Дыяна Юрчанка даўно супрацоўнічае з Коласаўскім тэатрам і паспяхова пераносіць асабісты вопыт і густ, выхаваны на IFMC, на беларускую сцэну (дзякуючы Дыяне наш драматычны тэатр можа цалкам саперніччаць з многімі пастаноўкамі славутых майстроў сучаснай харэаграфіі). Гнуткасць стальнога колеру касцюмаў, пантэрная пластыка маладых акцёраў напаўняюць спектакль дадатковым сэнсам.

Таццяна КАТОВІЧ



цыйна займаецца пастаноўкай сцэнічных баёў. Кожны "воўк" атрымаў індывідуальны пластычны малюнак ролі, але зграя ў агульных сцэнах застаецца адзіным арганізмам, жахлівым у нянавісці да вінаватага і вясёлым у пацешных ловах.

"Неяк шэра ўсё", — прабурчэў побач са мной пажылы глядач. Так, сапраўды, мастачка Вольга Грыцаева апранула ўсіх ваўкоў— акцёраў у шэрыя паўпразрыстыя трыко з мудрагелістa прыладжанымі кавалачкамі скуры, а цэнтральнай дэталлю сцэнаграфіі зрабіла вялізнае пано—заслону, якое нагадвае ці то вялікую скуру, ці то злітую ў адно воўчую зграю на паляванні, калі глядзець на яе з вышыні. На мой погляд, у яе атрымаўся ўдалы, "чытальны" вобраз, які пазбягае залішняга натуралізму накштал прымацаваных хвастоў (не ў ТЮГу ўсё ж такі) і ў той жа час яднае знешняе з унутраным, з сэнсам. Выйграў спектаклі ад удзелу ў яго стварэнні прафесійнага кампазітара Генадзя Ермачэнкава.

Юлія ПАЛАЧАНІНА

*Фота К. ДРОБАВА.*



ВЫСТАВЫ

# ЮНЫЯ МАСТАКІ ПРА ЯНКУ КУПАЛУ

***У Дзяржаўным літаратурным музеі адкрылася выстава выяўленчага мастацтва.***

Аснову склалі тэматычныя працы навучэнцаў студыі Палаца культуры Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы. Не абышлі студыйцы сваёй увагай раскошу і ўрачыстасць зямнога хараства яе Вялікасці прыроды. Працы здзіўлялі і прыцягвалі да сябе сонечнасцю і цеплынёй фарбаў, віртуознай і лёгкай імправізацыяй, музычнасцю гучання колеру фантастычных вобразаў дзіцячай мары. Але ўспрыманне непаўторнага свету мастацтва было б немагчымым без кіраўніка студыі Святланы Купрыянавай, чалавека незвычайнай дабрыні і сапраўднага прафесіянала.

Справаздачныя выставы яе выхаванцаў за апошнія гады можна было бачыць не толькі ў Мазыры ў гарадской выставачнай зале, але і ў карцінная галерэі — філіяле Нацыянальнага музея Беларусі, у Нароўлі — у гарадскім музеі народнай творчасці і іншых кутках Беларусі. Іхнія працы ведаюць у Аўстрыі — у горадзе Люстэнау дзіцячыя малюнкі склалі аснову прыватнай галерэі дзіцячай творчасці. А ў Славеніі да калядных святаў выйшлі паштоўкі з рэпрадукцыямі прац выхаванцаў Святланы Купрыянавай.

Адкрыла выставу дырэктар музея, унучатая пляменніца Янкі Купалы Жанна Дапкюнас. Перад прысутнымі выступілі намеснік дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Юрый Піскун, галоўны рэдактар «Беларускага радыё» паэт Навум Гальпяровіч, мастакі Міхась Міронаў і Васіль Касцючэнка, Марына Канавалава, мастацтвазнаўца Тамара Анісімава, галоўны метадыст Палаца культуры МНПЗ Таццяна Нягрэева, а таксама бацькі студыйцаў, цяперашнія і былыя выхаванцы Святланы Купрыянавай.

Усе ўдзельнікі выставы атрымалі ў падарунак зборнікі паэзіі Я. Купалы «Явар і каліна». Святлане Купрыянавай уручаны рарытэтны медаль, выпушчаны Маскоўскім манетным дваром да 100-годдзя песняра Янкі Купалы і сярэбраная юбілейная манета да яго 120-годдзя .

Паездка ў сталіцу юных мастакоў адбылася пры непасрэднай дапамозе Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода.

Зося КУСТАВА



# ВЕЧАР СЕРБСКАЙ ДРАМАТУРГІІ

***8 лістапада на Малой Купалаўскай сцэне "Тэатр п'есы" наладзіў публічнае чытанне "Фантомаў". Так называецца п'еса маладога сербскага драматурга Алены Кайгі, якая складаецца з дзвюх невялікіх драм, не звязаных сюжэтна, але аб'яднаных агульнай тэмай — каханнем, яго радасцямі і перш за ўсё праблемамі. Гэта першае знаёмства нашых тэатральных "гурманаў" з набыткамі сучаснага сербскага тэатра.***

Як трапна выказаўся дырэктар Купалаўскага тэатра Генадзь Давыдзька, праект пад назвай "Тэатр п'есы" быў створаны, каб "пераварыць" як мага больш цікавай сучаснай драматургіі. Сапраўдны паўнавартасны спектакль рыхтуецца паўгода-год і вымагае вялікіх матэрыяльных выдаткаў, працы рэжысёра, сцэнографа, кампазітара і многіх іншых людзей. А "чытка" дазваляе ў гранічна кароткі тэрмін і з мінімальнымі выдаткамі прэзентаваць цікавую драматургію, што раней не ставілася і не друкавалася.

"Тэатр п'есы" упершыню стартаваў у мінулым сезоне прадстаўленнем п'есы Андрэя Курэйчыка. У гэтым сезоне стваральнікі праекта вырашылі пашырыць геаграфію прадстаўляемых п'ес. Першай іх прывабіла сербская драматургія, надзвычай папулярная зараз у свеце. Купалаўскаму тэатру пашчасціла наладзіць творчыя сувязі з белградскім тэатрам "Атэлье": беларускі бок прапанаваў пазнаёміцца з п'есамі беларускіх драматургаў А. Дударава, А. Курэйчыка, А. Шурпіна, а сербы ў адказ даслалі свае п'есы, сярод якіх былі і "Фантомы".

Алена Кайга ў драматургію прыйшла не так даўно. Да гэтай пары яна ўжо паспела і сцвердзіць сябе ў якасці прафесійнай балерыны, выкладчыцы сучаснага балетнага майстэрства і мастацтвазнаўцы. Першая яе п'еса "Паўстанне" з'явілася гады чатыры таму і была прысвечана праблемам стаўлення моладзі да веры, да жыццёвых турботаў і набліжалася гэтым да беларускай рэчаіснасці. У сваіх "Фантомах" месцамі як псіхолаг, а месцамі — і як філасоф — драматург даследуе ў дзвюх драмах праблему свабоды ў каханні. Алене ўдаецца галоўнае – падштурхнуць гледача да сумесных развагаў з героямі. Сапраўды, ніхто нікому не належыць, але чаму ж тады так балюча раніць здрада? Чаму з часам праходзіць палкасць? І ўвогуле, ці мае вагу нечае існаванне, акрамя ўласнага? Разам з сербскім аўтарам адказу на гэтыя пытанні шукалі маладыя акцёры-купалаўцы: Ганна Хітрык, Юлія Шпілеўская, Віталь Любецкі, Яна Русакевіч, Кацярына Яворская, Ігар Пятроў. Пасля літаральна дзвюхтрох рэпетыцый яны здолелі перадаць драматургічнае напружанне п'есы, а рэжысёр Уладзімір Шчэрбань дапамог надаць спектаклю-чытцы больш аб'ёмнае гучанне з дапамогай відэаэкрана і адпаведнай музыкі.

"Фантомы" Алены Кайгі сабралі поўную залу. Сярод гледачоў былі і сербскія грамадзяне, ў тым ліку саветнік па культуры сербскага пасольства ў РБ спадар Аўраамавіч. Чытка ўжо традыцыйна завяршылася зацікаўленым абмеркаваннем пачутага і ўбачанага. Перакладчык п'есы Аксана Пісецкая адказала на пытанні пра асобу драматурга, акцёры запыталіся ў гледачоў пра ўражанне ад п'есы і мэтазгоднасць пераўтварэння яе ў сапраўдны спектакль, кіраўнік літаратурнай часткі тэатра Марына Бартніцкая расказала пра планы "Тэатра п'есы", а дырэктар тэатра Генадзь Давыдзька паразважаў наконт мэтазгоднасці такой працы і яе перспектывы. І сапраўды, зараз у Купалаўскага тэатра з'явілася магчымасць стварыць "культавы" тэатр, які будзе карыстацца вялікай папулярнасцю сярод "прасунутай" моладзі нароўні з ужо існуючым "культавым" кінематографам...

Юлія ПАЛАЧАНІНА

# У ЦЭНТРЫ КАНТЫНЕНТА

**Фотамастак Георгі ЛІХТАРОВІЧ**









**Мастак-пейзажыст магчыма паглядае на пейзажыста-фотамастака з пэўнаю пагардаю. Маўляў, усёй справы, што зарадзіць камеру стужкай, дачакацца "паштовачнага" надвор'я (на паштоўках звычайна сонечны дзень, блакітнае неба), знайсці кропку ды націснуць кнопку. Гэта вам не тое, што доўга выношваць творчую задуму, чакаць натхнення, пакутліва шукаць вобраз. Але насамрэч фотаапарат такі ж інструмент творчасці, як пэндзаль ці аловак.**

**Як адказ на запатрабаванне часу выйшаў у 2000 годзе ў свет альбом "Добры дзень, Беларусь" Георгія Ліхтаровіча. З'явіцца раней у Беларусі ён не мог. Каб адчуць сябе прыгожай Беларусь мусіла найперш стаць незалежнай. Георгій Ліхтаровіч ішоў да гэтага твора ўсё жыццё. Ён рабіў альбом не па чыёйсьці замове, а па ўласнай душэўнай патрэбе. Як творца шлях да сваёй Беларусі ён распачаў у школьныя гады, калі захапіўся фатаграфіяй. Зараз Георгію Ліхтаровічу пяцьдзесят пяць год. Яму давялося працаваць асістэнтам кінаапаратара на Мінскай студыі дакументальных фільмаў, служыць у войску, працаваць у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, вывучаць архітэктуру ў Беларускім політэхнічным інстытуце. Быў Ліхтаровіч фотакарэспандэнтам "Голаса Радзімы", удзельнічаў у стварэнні першых тамоў "Збору помнікаў гісторыі і культуры", выкладаў фотаграфіку ў нашым тэатральна-мастацкім інстытуце. Ён аўтар шэрагу фотаальбомаў, што выйшлі ў выдавецтве "Беларусь". Ён рыхтаваў фотарэпрадукцыі для трох "манументальных" альбомаў па гісторыі Беларускага мастацтва.**

**Калі ўсё жыццё працуеш на кагосьці, рэалізуючы тую ці іншую задуму работадаўцы,**



**дык непазбежна (калі ты творца) пачынаеш марыць пра нешта сваё, уласнае. Ад пачатку табою задуманае і да канца табою здзейсненае. "Добры дзень, Беларусь" — здзейсненая мара пра Сваё, погляд на сваю краіну чалавека, на гэтай зямлі народжанага. З такой кнігай не сорамна ехаць за мяжу, паказваць яе людзям іншых краін. Першае і галоўнае ўражанне ад альбома: прыгожая краіна! Пры тым, што мастак нічога не прыхарошвае, нічога не выдумляе. Проста ён засяроджвае ўвагу на вечным, не пускае ў кадр выпадковае, штучнае, неістотнае. Прапаноўвае гледачу сваю версію вечнасці.**

**Той, хто больш-менш знаёмы з папярэднімі творамі мастака, магчыма быў здзіўлены новаю іпастассю творцы. Па сутнасці "Добры дзень, Беларусь" — паэтычны зборнік, праілюстраваны беларускімі краявідамі. Так, Георгі Ліхтаровіч выступае як паэт. Ён прымушае гледача стаць яшчэ і чытачом. Прымушае без прымусу.**

**Мой любімы фотамайстар — Карэл Пліцка. У нашай краіне ён вядомы найперш, як аўтар цудоўнага чорна-белага фотаальбома "Прага". Дзякуючы гэтаму генію фатаграфіі Прагу палюбілі як родны горад людзі, якія ніколі ў ім не былі. Я заўсёды зайздросціў чэхам і славакам за тое, што яны маюць такога мастака. Пасля з'яўлення альбома "Добры дзень, Беларусь" пачуццё зайздрасці крыху сцішылася. Георгі Ліхтаровіч здолеў сцвердзіць тую ісціну, што Беларусь — цудоўная краіна, якой Бог нездарма вызначыў месца ў цэнтры Еўрапейскага кантынента.**

**Вобраз, намаляваны фотакамерай, і вобраз, намаляваны словам, узаемна ўзбагачаюць адзін аднаго.**

*Над празрыстым бярозавым гаем,*
*Над іскрыстым сусветам азёрным*
*Бела-чорная птушка лунае,*
*Каб не стала жыццё бела-чорным.*

**Кожнаму хочацца бачыць плён сваёй працы, ведаць, што яна мае сэнс.**

*У руплівасці новага ранку*
*У прасторы буслоў клекатанне...*
*Калі справу пачнем на світанку —*
*Добры дзень у краіне стане.*

**Гэтымі радкамі Георгі Ліхтаровіч распачаў сваю кнігу. Імі ж я мушу скончыць свае нататкі.**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**









ЛІМ-ЧАСАПІС

## НА НІВЕ ГІСТОРЫІ

### СЯРГЕЮ МАСІЯШУ — 75 ГАДОЎ

Рускаму пісьменніку Сяргею Паўлавічу Масіяшу, які жыве ў Гомелі, споўнілася 75 гадоў. Гэта па пашпарце. А калі ўлічыцьяго блуканні са сваімі героямі, то да гэтай даты давядзецца дадаць яшчэ некалькі стагоддзяў...



Нарадзіўся будучы раманіст у 1927 годзе ў Новасібірску. Служыў у арміі, працаваў на заводзе, вучыўся ў вячэрняй школе. Пасля заканчэння Новасібірскага педінстытута працаваў у сельскіх школах, пісаў вершы. Потым жыў у Алма-Аце — працаваў у выдавецтве "Кайнар" і газеце "Дружные ребята". Пасля жыў ва Уральску. Пераехаў у Гомель, дзе працаваў на тэлебачанні. Час ад часу выходзілі кнігі. Але Сяргей Паўлавіч не цешыў сябе надзеямі. Гэта былі толькі подступы да будучай працы. Жыццё ва Уральску (былым Яіцкім гарадку, дзе некалі дзейнічаў Емяльян Пугачоў) падказала яму тэму першай гістарычнай аповесці "Ваня Крылов". З яе і пачалася сапраўдная работа на ніве гісторыі. На сёння ён аўтар 34 кніг, сярод якіх найбольш значныя — раманы "Александр Невский", "Святополк Окаянный", "Ханский ярлык", "Великий государь Федор Алексеевич", "Без меня баталии не давать", "Фельдмаршал Шереметьев", "Похищение престола", "Одиссея батьки Махно" і інш.

Сяргей Масіяш — лаўрэат прэміі Валянціна Пікуля. На рабочым стале пісьменніка аповесць "Птенцы Петра Машерова" — аб шматкратным чэмпіёне СССР, Еўропы і свету Віктары Куранцове.

Дні і турботы Сяргея Масіяша працягваюцца. Гісторыя — гэта надоўга.

**Юрый ФАТНЕЎ**

## ПРА "АРХІПЕЛАГ" КНЯЗЁЎ САПЕГАЎ

22 лістапада ў Нацыянальным гістарычным музеі (вул. К. Маркса, 12) у межах выставы "Гістарычны партрэт Вялікага Княства Літоўскага XV—XVIII ст." адбудзецца прэзентацыя кнігі Валянціна Дубатоўкі "Архіпелаг Сапегаў" - першага айчыннага даследавання сапегаўскіх фундацый на Беларусі. Пачатак у 18.00. Уваход вольны.

## ЗАПРАШАЕМ!

29 лістапада 2002 года ў 18 гадзін у Вялікай зале Дома літаратара пры ўдзеле Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь, Саюза беларускіх пісьменнікаў, беларускага грамадскага аб'яднання украінцаў "Ватра" мае адбыцца літаратурная сустрэча "Тарас Шаўчэнка, Янка Купала, Якуб Колас: спадчына і сучаснасць".

## Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі

аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую прапіску):

-кафедра канцэртмайстарскага майстэрства

старшы выкладчык – 1;

-кафедра гісторыі музыкі

прафесар – 1;

-кафедра філасофіі

дацэнт– 1.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання. Заявы і дакументы накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Даведкі па тэлефонах: 227-49-42; 226-06-70.

НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЗАЛАТОЕ СЯЧЭННЕ

Чытаючы і перачытваючы кнігу паэзіі Васіля Макарэвіча "Квадратура круга", якая вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, хочацца сказаць, якое ўражанне выклікалі б творы, змешчаныя ў гэтыя зборніку, калі б ён выйшаў сем-восем гадоў таму назад, а не ляжаў у шафе, чакаючы сваёй чаргі. Аднак вершы, напісаныя па гарачых слядах тагачасных падзей, што адбываліся не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі, не страцілі свайго запалу, цікавасці, паэтычнага гучання і сягоння. Яны прыцягваюць увагу сваёй неардынарнасцю, тэматычнай разнастайнасцю, вобразнай сістэмай, мастацкім бачаннем рэчаў і з'яў.

Ужо ў першым вершы, якім пачынаецца кніга паэзіі "Квадратура круга", Васіль Макарэвіч як бы раскрывае сваё паэтычнае крэда: "Хачу я зводзіць душ людскіх масты, мяне іх раз'яднанне турбавала", і далей: "Пішу лісты я мёртвым і жывым і нават тым, хто заўтра закугакае". Сказана больш, чым адкрыта і выразна, без аніякіх эківокаў і хітрыкаў, як і трэба гаварыць у праграмным вершы, дзе выказваецца тое, што бывае самым патаемным, глыбока інтымным і разам з гэтым лучыцца з пачуццямі, якія характэрны ці блізкія не аднаму чалавеку, а вельмі і вельмі многім як равеснікам-аднагодкам, так і тым, хто на некалькі гадоў старэйшы ці маладзейшы.

Не можа аўтар не абмовіцца, сказаць слова і пра творчы акт, пра тое, як яму пішацца, як даюцца вершы:

*Гляджу на росы ў густым лісці*
*Цераз слязы няпрошаную*
*шыбіну,*
*Як быццам праз мінуту узысці*

*Патрэбна мне на эшафот ці*
*шыбельню.*

Трэба заўважыць, што Васіль Макарэвіч і яго паэтычная муза не былі спешчаны крытыкай, ён не трапляў ні ў адну абойму творцаў, якія згадваліся да месца, а калі-нікалі і не да месца ў артыкулах ці дакладах, куды ўваходзіла, як патроны ў патроннік, пэўная колькасць прозвішчаў, і хутчэй па інерцыі і па прывычцы, чым з-за паэтычнай значнасці іх твораў. На гэты конт Васіль Макарэвіч мала наракаў на замоўчванне яго імя, ведаючы цану творам тых, каго хваліпі, захліпаючыся ад прыліву таннага замілавання, і, безумоўна, сваім радкам. Ці не ўсё гэта і прымусіла паэта гаварыць у канцы верша сціпла і нешматслоўна: "Хай не вякі, а хоць бы землякі пачуюць, што скажу я ціхім голасам". Мне думаецца, я ўпэўнена ў тым, што, выказваючыся вось так, аўтар меў на ўвазе зусім адваротнае. Як гэта вытлумачыць? А вельмі проста!

Па-першае, нельга сказаць, што ў Васіля Макарэвіча ціхі голас. Яго вершам уласціва публіцыстычнае гучанне, адточаная чаканка радка, што падобна да чаканкі залатых і срэбных манет, дзе не знойдзеш ні зазубрын, ні іншых дэфектаў.

Па-другое, жаданне, каб "не вякі, а хоць бы землякі" пачулі голас паэта, наўрад ці дае падставы думаць, што паэт сабраўся гаварыць ціха, спакойна, без аніякага напружання. Калі паэт наважыўся гаварыць не на ўвесь голас, то з такім акцэнтам і гучнасцю, каб сказанае ім дайшло да кожнага аматара паэтычнага слова і тых, хто ўмее слухаць, бо ў творах кнігі часцей за ўсё бачацца яго адносіны да сягоннящняга дня і таго, што дзеецца, адбываецца ў нашай краіне.

Асабліва гэта ярка і выразна праявілася ў невялічкай паэме "Рэальная фантазія".

Па тым, што гэтым творам адкрываецца не толькі раздзел, а па сутнасці ўся кніга, што бывае ў кніжнай практыцы вельмі рэдка, — паэмы, як правіла, друкуюцца ў канцы зборнікаў і паэтычных кніг, то можна смела сказаць, што паэт зрабіў гэта знарок, каб падкрэсліць, што гэты твор для яго не просты, а ў нейкай меры праграмны твор, у якім ён сканцэнтраваў пільную ўвагу на тых рэчах і з'явах, якімі заклапочана ўсё наша грамадства.

У паэме, што ні страфа — то паэтычнае адкрыццё, то факт з сацыяльнага жыцця, пра які сказана так, нібы паэт высек і засведчыў нейкую з'яву на каменнай пліце ці на бетоннай агароджы, якой у горадзе абнесць будоўлі ці іншыя аб'екты. Хіба не цікава і арыгінальна сказана?

*Трубіць і раве рэкламай гандаль,*
*А знайдзі ты абірала-гада*
*Ясным днём са свечкай ці агнём!*
*Ходзяць міліцэйскія брыгады,*
*Ну а рэкет, ён — як чорт рагаты:*
*Гнём, а ні на волас не сагнём.*

Гаворачы пра ўсё анамальнае, што адбываецца ў рэспубліцы, аўтар карыстаецца гумарам, сарказмам і гратэскам, — тымі прыёмамі і мастацкімі сродкамі, якія даюць магчымасць сказаць так, каб чытачы адчулі аўтарскае абурэнне і непрыязнасць, непрыняцце таго, што набыло вычварныя формы. Але гэта не аддаляе аўтара ад рэальнай праўды, ні на імгненне не дазваляе ўявіць, што ён фантазіруе, што ён далёкі ад ісціны, і не ўсё, канечне, а тое-сёе са сказанага — выдумка, і ўжыта яна не для нейкага знешняга эфекту, а для большай рознакаляровасці малюнка, узнаўлення той атмасферы, што пануе ў сягоннішнім грамадстве.

Паэма "Рэальная фантазія" гаворыць і пацвярджае думку, што Васіль Макарэвіч здольны ўлавіць подыхі свайго часу, тых змен і новых парасткаў, што з'яўляюцца ў нашым грамадстве, сказаць пра іх свежа, запамінальна, паэтычна і дакладна, даючы ім выразную характарыстыку, замацаваўшы словам і ў слове.

Вельмі пахвальна тая рыса ў творчасці і кнізе Васіля Макарэвіча, што амаль ва ўсіх сваіх творах ён звяртаецца да сягоннящняга дня, таго, што адбываецца ў нас на вачах, што і хвалюе і непакоіць кожнага з нас, прымушае засяродзіцца і задумацца над тым, куды мы ідзем, што чакае нас наперадзе заўтра і ў недалёкім будучым? Робіць паэт усё гэта натуральна, неяк проста, як бы мімаходзь. Але гэтыя прастата і лёгкасць прывідныя, уяўныя. На самай справе за імі тоіцца глыбокая думка, значны падтэкст.

З душэўным шкадаваннем і жалоснасцю Васіль Макарэвіч гаворыць пра нашу няўвагу не толькі да акаляючай нас прыроды, экалогіі, але і да гістарычных мясцін і помнікаў, якія засталіся ад мінулых часоў. Не абыходзіць аўтар і вострыя, як бы забароненыя тэмы, пытанні і падзеі, што мелі месца ў далёкім мінулым, напрыклад, перамогу князя Канстанціна Астрожскага над рускімі войскамі ў знакамітай бітве, што адбылася пад Оршай. Вядома, гэту перамогу не ўсе схільны разглядаць адназначна. Кожны падыходзіць да яе па-свойму.

Таму Васіль Макарэвіч недвухсэнсоўна гаворыць пра бітву пад Оршай: "Не Русь мы білі, білі мы паганцаў, якіх ставала ў нас і на Русі". Здаецца, сказана вельмі і вельмі дакладна і справядліва.

Хвалюецца, перажывае паэт за экалагічны стан нашай запаведна-крынічнай Белавежы. Раней, гаворыць Васіль Макарэвіч, "зубры ішлі ў гушчар нямы, хаця не з палахліўцаў". Гэта было раней, калі дбалі пра чысціню і непадступнасць Белавежы для розных хапуг і браканьераў. Але часы і адносіны да прыроды настолькі змяніліся, што аўтар мае права спытацца: "А чым змаглі б сягоння мы перад вякамі пахваліцца?" І хто можа папракнуць паэта за гэта справядлівае

# РОДНЫ КУТ І ВЯЛІКІ СВЕТ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар.13)**

Аднак да пастаноўкі ўласна нацыянальных праблем Быкаў прыйшоў далёка не адразу. Ці не ў рамане "Кар'ер" (1986) і ў публіцыстыцы 80-х і наступных гадоў ён упершыню на ўвесь голас загаварыў пра гэтыя праблемы і з тых пор змагаецца за іх належнае вырашэнне бескампраміснa, з непахіснай мужнасцю. Таму мне было цяжка пагадзіцца з В. Каваленкам (няхай яму лёгка ікнецца на тым свеце!), калі ў ягоным артыкуле "Вяртанне нацыянальнай ідэі" ("Звязда", 1993, 26 лістапада) прачытаў, што ўжо ў "Альпійскай баладзе" (1963) Быкаў зрабіў галоўнай нацыянальную праблему. Больш таго, у тым артыкуле гаворыцца, што "Альпійская балада" "бадай, самы "Нацыяналістычны", твор у беларускай літаратуры". "нацыяналістычны" ўзята ў двукоссе. Гэта азначае, што тут маецца на ўвазе самы нацыянальны твор. Так "Альпійская балада" абвяшчалася больш нацыянальнай, чым коласаўская "Новая зямля", "Тутэйшыя" Янкі Купалы і лірыка паэта нашаніўскага перыяду і першых пасляваенных гадоў, чым паэзія Алеся Гаруна. Перабольшанне яўнае. Ды Быкаву прыпіскі зусім не патрэбныя.

Але на якой падставе зрабіў даследчык такое парадаксальныя высновы? На той, што ў героя "Альпійскай балады" Івана Цярэшкі, калгасніка з вёскі Цярэшкі "на старажытнай зямлі крывічоў", "закахалася італьянка Джулія, інтэлігентка з Рыма — горада, які справядліва лічыцца даўняй калыскай еўрапейскай цывілізацыі. Джулія ўдзячная лёсу, што ён звёў яе з Іванам, і называе яго чалавекам толькі з вялікай літары". Праўда, называе. І праўда, што Рым, прызнамсі, адна з калысак еўрапейскай цывілізацыі. Але Каваленка зусім абмінуў той факт, што для Джулії Іван — перш за ўсё савецкі чалавек. Сама яна звязана з камуністамі, выступае як безумоўная іх прыхільніца. А якая была ў камуністаў цывілізаванасць ды інтэлігентнасць, добра вядома. Яны найбольш дачыніліся да вынішчэння, руйнавання многіх здабыткаў культуры і цывілізацыі. Джулія скрозь звяртаецца да Івана як да рускага ("руссо Іван") і ў тым пісьме Іванавым землякам, якім завяршаецца аповесць, гаворыць пра Цярэшку як пра "человека, истинно русского". Пісьмо ў беларускамоўным творы падаецца па-руску. Ужо васемнаццацігадовы сын Івана і Джуліі з італьянскай пераклаў яго на рускую мову, а не на беларускую, што было б лагічна, каб ён усведамляў бацьку менавіта як беларуса. І нішто не перашкаджала пісьменніку зрабіць так, калі б у "Альпійскай баладзе" завастралася думка пра беларускую нацыянальную ідэю. Зрэшты, беларускасць Івана ў творы ўвогуле таксама згадваецца, але яна менш за ўсё падкрэсліваецца.

Для чаго спатрэбілася Быкаву ў "Альпійскай баладзе" ўся гісторыя з Джуліяй і яе выратаваннем? Пісьменніку трэба было сцвердзіць думку пра трагедыю палонных. Нагадаю, што Цярэшка — савецкі ваеннапалонны, які разам з Джуліяй уцякае з гітлераўскага канцлагера і ўрэшце выратоўвае яе, гінучы сам. Так паказваецца мужнасць і высакародства Цярэшкі. Паказваецца з палемічным падтэкстам. Бо ў нас у сталінскія часы палонныя аб'яўляліся здраднікамі. І тыя з іх, хто выжыў у страшэнных умовах фашысцкіх канцлагераў і вярнуўся (ці быў вернуты) на радзіму, падлягалі рэпрэсіраванню. Значную частку іх расстралялі, астатніх зняволілі на тэрмін ад 10 да 25 гадоў. Пры Хрушчове гэтыя тэрміны скасавалі, але пэўны недавер да былых палонных заставаўся аж да той пары, пакуль не пацярпеў крах бальшавіцкі рэжым. "Альпійская балада" пісалася ў час хрушчоўскай "адлігі", калі пра жахлівую несправядлівасць да палонных пачыналі гаварыць адкрыта. І Быкаў словам мастака падтрымліваў іх, сцвярджаючы, што палонныя не перабежчыкі да ворага, а тыя, што былі ўзяты ў палон сілаю, найчасцей у выніку акружэнняў заслугоўваюць спагады за перанесеныя пакуты, пашаны і павагі як удзельнікі вайны з фашызмам. У гэтым переасэнсаванні ранейшага погляду на палонных і быў, думаецца мне, галоўны, вельмі актуальны тады грамадзянскі пафас аповесці, не страчаны і цяпер, бо гуманізм у стаўленні да чалавека — норма цывілізаванага грамадства.

А рамантычнае каханне на фоне альпійскіх макаў, перад пагрозай смерці, якая даволі хутка забрала аднаго з уцекачоў (Івана), эфектна расквечвала па-чалавечы шчымлівую і не вельмі верагодную ў некаторых момантах гісторыю галоўных дзейных асоб. У нядаўнім выступленні па радыё (верасень 2002 года) Быкаў прыгадваў выказванне Панчанкі, які як галоўны рэдактар "Маладосці", дзе друкавалася "Альпійская балада", перад публікацыяй аповесці сказаў пра яе: "Усё гэта няпраўда, але чытаецца з цікавасцю. Значыць, мы маем мастацкі твор".

пытанне?! Ды ніхто! Задаючы такое пытанне, не дзіўна, што аўтар верша дае адказ, які гучыць у саркастычна-з'едлівым тоне: "Магчыма, тым, што — коўць ды цмок! — з грудзей сасонкі-маладухі падсочкі прагнай люты цмок жывіцу цягне без аддухі". Ды каб жа толькі падсочка здзекавалася з Белавежы, падрывала яе здароє! Да ўсяго ў пушчу "пад шэпт галля з Крамля спяшала паляванне" ды "гон пад хітры — з оптыкай — прыцэл турыў наўпростдзікоў з зубрамі". Гаворачы далей пра бядоты Белавежы, аўтар як бы выходзіць на абсягі новай тэмы, якая не выглядае іншароднай, а дадае новыя штрыхі, гаворачы пра іншыя нашы няшчасці: "А ўслед за намі, быццам рысь, скрозь без дазволу і ліцэнзій, употай пушчы горла грыз, нібы пілой, нябачны цэзій". Дык хто можа вытрымаць такія вось здзекі і пакуты?!

Асобнай увагі патрабуе да сябе паэма "Лісты з Юрмалы". Некаторыя паэты і крытыкі лічаць, што яна па-свойму гумарыстычнаму і саркастычнаму гучаннях блізкая да "Сказа пра Лысую Гару". Цяжка сказаць, так гэта ці не. Але, пэўна, нейкая доля ў гэтай згадцы маецца. Толькі трэба заўважыць адно: у паэме ні на каліва не паўтараюцца ні сітуацыі, ні інтанацыя лысагорскага ведзьмака. Паэма сама па сабе арыгінальны твор, усе кампаненты яго з'яўляюцца самастойнымі і самабытнымі. У паэме нямала паэтычных знаходак, нечаканых мастацкіх адкрыццяў. Васіль Макарэвіч даў жывую і яркую панараму свайго часу і падзей, якія адбываліся ў нашы дні і не так ужо ў далёкім мінулым. Твор чытаецца з неаслабнай увагай і цікавасцю ад пачатку і да канца. У сувязі з гэтым хочацца згадаць і працытаваць водгук вялікага нашага Народнага паэта Пімена Панчанкі ў сваім лісце да аўтара твора — Васіля Макарэвіча. "Сёння апоўдні я прачытаў выдатную паэму "Майстру — лісты з Юрмалы" (так у першапачатковым варыянце называлася паэма). Гэта ўжо спелы твор майстра, майстра Васіля Макарэвіча. Няма пустых слоў, пустых выразаў і вобразаў... Таленавітыя рыфмы... Вострая, свежая рэч, варта яе як-небудзь адзначыць! Ды не абы-як, а як-небудзь! Пішыце! Я ў вас моцна веру!"

Каго не ўзрадавалі б гэтыя радкі і пахвала такога патрабавальнага паэта-класіка, якім быў пры жыцці Пімен Панчанка! Ён ужо тады, у 1993 годзе быў заклапочаны тым, каб гэты твор не абышлі бокам і ён быў адзначаны і " не абы-як"!" Здаецца, гэты час надышоў. Кніга паэзіі Васіля Макарэвіча "Квадратура круга" вылучана на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі. І, думаецца, члены камітэта па Дзяржаўных прэміях прыслухаюцца да выказвання і пажадання народнага паэта, які ніколі не памыляўся ў прынцыповай ацэнцы як сваіх, так і чужых твораў і кніг.

**Таццяна СЯЛЮК,**
**настаўніца СШ № 183 г. Мінск**

---

Аповесць, як гэта нярэдка здараецца з займальнымі, па-майстэрску разгорнутымі сюжэтамі такога кшталту, хутка набыла папулярнасць, атрымала сваю інтэрпрэтацыю ў кіно, драматычным тэатры, на радыё, на опернай і балетнай сцэне. У плане творчага развіцця Быкава яна таксама пакінула свой след, паказала, што пісьменніку падуладна не толькі звыклае для яго "пяро аналітыка", блізкі да графікі лапідарны стыль без усякага расквечвання, відавочны ў цэлым пласце "Альпійскай балады", але і яркае рамантызаванае пісьмо з выразамі лірычнымі інтанацыямі, з багатай і моцнай, аж да пранізлівасці, пачуццёвасцю, так яшчэ раз пацвердзілася, што выдатныя мастакі найчасцей валодаюць рознабаковым талентам. Гавораць пра гэта і цяперашнія быкаўскія прыпавесці, шчодрыя на з'едлівую іранічнасць і шматзначную сімволіку.

Зраблю агульныя высновы. Вопыт самых выдатных майстроў слова пераконвае, што сапраўднага поспеху дабіліся тыя мастакі, якія ад паэтызацыі роднага кутка ішлі да таго, што было важным для цэлай краіны, уздымаліся да вялікай праблемнасці агульналюдскага значэння. Зацыкленасць жа на местачковым абсягу думкі, бачання жыцця несумяшчальная з вялікімі мастацкімі адкрыццямі. Класікамі з такой зацыкленасцю не становяцца. Нездарма ж і Быкаў яшчэ ў пачатку 80-х гадоў з трывогай казаў пра небяспеку для нашай літаратуры вузкага правінцыялізму.

Такім чынам, родны кут, родны ці ад нараджэння ці таму, што стаў такім для мастака па ўмовах яго жыцця, яго свядомага выбару, для пісьменніка надзвычай важны, бо дае яму натхненне, а часта і багаты канкрэтны матэрыял для творчасці. Без такога кута няма добрых мастакоў. Але іх не бывае і без выхаду на глыбінную думку пра чалавека, якая ў сутнасці сваёй становіцца і думкай пра родную краіну, пра чалавецтва, пра цэлы свет.

**Дзмітрый БУГАЁЎ**

**ПАМЯЦЬ**

# ЖЫЎ У СВАІМ ЧАСЕ

Паўла Нічыпаравіча Кавалёва часта ўспамінаю. Ён жыве ў маёй памяці, у душы. І вельмі шкадую, што ён пакінуў зямны рай, перасяліўся ў вечнасць.

Яму, як ён любіў казаць, "старому члену прафсаюза", было б у гэтым лістападзе дзевяноста. Шаноўны юбілей!

Павел Нічыпаравіч, мы з вамі сябравалі: старэйшы і маладзейшы. Узростне шкодзіў нам абмяркоўваць падзеі, раіцца і спрачацца, ісці па жыцці ў адным накірунку. Мне заўсёды было радасна сустракацца з вамі: ці то на вуліцы, у парку, ці то дома, у Саюзе, ці то ў паездцы. Вы ўмелі расказваць-прыгадваць, умелі слухаць і хваліць, падказваць і падпраўляць. Вам усё было цікава ў вірлівым жыцці, у літаратурным абозе, у чалавечых праявах. Можа, такое дзіцячае ўспрыняцце свету і нарадзіла з-пад пяра найлепшыя вашы творы для дзяцей — "Чырвоны лядок", "Андрэйка", "Лёнька Гром".



Аповесць "Чырвоны лядок", вот хітры дзед, вы пачалі спакваля, як бы нехаця. Унукі папрасілі расказаць нешта цікавае. А што расказаць, тлумачыце вы, калі пра ўсё значнае ўжо даўно напісана. Пасля паправілі сябе: "Хаця нешта цікавае адным нейкім краёчкам было і ў маім жыцці". Гэта заінтрыгавала дзяцей, яны сцішыліся. Пара распавядаць. Так і атрымалася аповесць пра цяжкае і гераічнае дзяцінства пісьменніка, пра яго спасціжэнне жыцця, актыўным удзеле ў ім.

Помню ваша прызнанне, як зараджалася самая выдаваемая аповесць "Лёнька Гром". Кожны дзень вы праходзілі з дому ў рэдакцыю міма райаддзела міліцыі. Аднойчы ўбачылі, як міліцыянер цягнуў за каўнер падлетка. Перад уваходам у аддзяленне хлапец скінуў з сябе ватнік і вылузнуўся з-пад "апекі", як рыбка юркнуў у людскі натоўп.

Многія з нас бачацы не такое, але праходзяць міма, а вы пайшлі ў міліцыю, навялі даведку пра малога злачынцу. Ён быў ужо вядомым зладзейчыкам, меў клічку Лёнька Гром. Гадаваўся хлопец у цяжкай сям'і, уцякаў з дому, са школы. А калі яго злавілі другі раз і засудзілі, вы паехалі ў калонію і цэлы месяц назіралі за жыццём малалетніх злачынцаў. Не напісаць аповесць вы проста не маглі.

Жыццё наша цяпер падкідвае новыя тэмы. Праблем з дзецьмі не паменела. Але каму з пісьменнікаў гэта набаліць? Хто паедзе на месяц у калонію? Каму захочацца валаводзіцца з цяжкім падлеткам, натхняць яго?

Пісьменнік Павел Кавалёў пачаўся з тэмы "вайна і дзеці" — "Малы мужчына", "Згублены дзённік", "Сябры мае, дзеці". Тэма дзяцінства, асмеліўся б я сцвердзіць, галоўная ў творчасці Паўла Нічыпаравіча. Доўгія гады ён узначальваў дзіцячую секцыю пры Саюзе пісьменнікаў, заставаўся нястомным змагаром за дзіцячыя кнігі, іх аўтараў. І сам умеў назіраць за дзецьмі. У яго самога, як ён казаў, была "камуна Кавалёвых" — дзеці, унукі, праўнукі. Яго кнігі "Жыві сабе, зайчык!", "Намеснік бабулі" якраз і сцвярджаюць высокую педагогіку душы пісьменніка. Ён радаваўся: узнімаюцца дзеці кемлівымі спагадлівымі. Верыў у іх і бязмежна любіў іх.

Пры ўсёй складанасці лёсу (сялянская сям'я, калектывізацыя, вайна, адказныя пасады) вы, Павел Нічыпаравіч, заставаліся аптымістам, ішлі па жыцці светла, з настроем. Гэтаму сведкі і вашы кніжкі: "Аповесць пра добрае сэрца", "У новы дзень", "Каб шчасліва жыць", "Сонца ў вокны", "Пакінь нас, трывога".

Вы нават і ў побыце, у таварышаванні, у ліставанні заставаліся па-дзіцячы цікаўным, з добрай гумарынкай у душы. І акуратным, абавязковым у адносінах да ўсіх, да каго хінулася ваша сэрца. Толькі цяпер заўважыў,ператасоўваючы хатнія архівы падчас рамонту, што вы дасылалі на кожнае свята віншавальныя паштоўкі, хаця жылі мы на адной вуліцы, праз два дамы, і спраўна працаваў тэлефон. Цяпер паштоўкі — рэліквіі. Пад імі подпіс: "Зоя Антонаўна і Павел, старых правіл".

Аказваецца, людзі са старымі правіламі і не такія ўжо старамодныя. Сучасным маладым, можна і трэба багата чаго пераняць ад сваіх сабрацця з заснежанымі галовамі. Спісваць іх з уліку, значыць хаваць сябе зажыва.

Я б усім маладзейшым за нас параіў пачытаць вашу кнігу ўспамінаў "На ўсё жыццё". Мне пашчасціла быць сведкам, як вы беражліва перачытвалі пісьмы класікаў. Слухаў, з якой сардэчнасцю прыгадвалі вы свае незабыўныя сустрэчы з Якубам Коласам і Янкам Купалам, якімі былі чалавечыя і творчыя кантакты з Пятром Глебкам, Змітраком Бядулем, Іванам Мележам, Міхасём Лыньковым, Аркадзем Куляшовым. Асабліва даражылі пісьмом ад Янкі Маўра. Ён некалі прачытаў ваша апавяданне "Гордасць" і адгукнуўся лістом: "Прачытаў з цікавасцю, што са мной бывае рэдка". Далей ішла "разборка" твора і прыпіска ў канцы: "Калі такія (і яшчэ болей прыдзірлівыя заўвагі) вам могуць спадабацца, то я прапанаваў бы ў далейшым паказваць мне тоё-сёе перад друкаваннем..." Вы помнілі, Павел Нічыпаравіч, усё і ўсіх, ганарыліся сустрэчамі з братамі па пяры і перадалі свае ўспаміны нашчадкам. А яны ўсё радзей і меней прыгадваюць гэтых волатаў Слова, вялікіх людзей Беларусі.

Вы ж не ведаеце, Павел Нічыпаравіч, памінальную на вас падпісала шаноўныя купка людзей: так і высокія чыноўнікі і народныя пісьменнікі, і рэдактары. Ад імя ўсіх яны запэўнілі, што памяць па вас будзе вечнай што вы будзеце ў сэрцах людзей заўжды.

Што сказаць? З тых, хто падпісаўся пад гэтым прызнаннем, ужо няма сярод нас Івана Чыгрынава, Вячаслава Адамчыка, Артура Вольскага, Васіля Віткі, Віктара Каваленкі, Максіма Лужаніна, Петруся Макаля, Аляксея Русецкага. Самая свежая страта — любімы намі ўсімі Артур Вольскі.

Адчуў, пішу гэтыя радкі ў вашу памяць, як бы зноў убачыўся з вамі. Сядзім у парку і спавядаемся. Ох, дарагі дружа, пра многае хацелася б вам паведаць, як кажуць, паплакацца. І як бы чую ваш, далёкі голас: "Пад старасць і я пачаў строга экзаменаваць сябе: ці так жыў, ці пра тое пісаў? Скажу чэсна, Уладзімір, не зусім задаволены сабой. За многія тэмы браўся, пісаў вершы, нарысы, артыкулы, апавяданні, аповесці, п'есы, сатыру, гумар, займаўся перакладамі, а трэба было трымацца толькі дзіцячай літаратуры. Шмат пра што хацелася б напісаць, але задумкі абганяюць мае магчымасці..."

Ведаю, на вашым рабочым стале, Павел Нічыпаравіч, да апошняга зямнога дня ляжаў стос паперы, на якім вы занатоўвалі свой дзённік. Веру, гэта шчырая споведзь, ваша пакаянне, перагляд пражытага і смелы позірк у заўтра, якое ўжо наступіла сёння. От бы цікава было абнародаваць ваша шчырае прызнанне!

Вы спяшаліся рабіць дабро. Вы, мой сябар, жыццявалі на зямлі сумленна, аддана. Вы жылі ў сваім часе, былі вернымі яму. Пражытае і напісанае застаюцца. Дык і вы, дарагі Павел Нічыпаравіч, прадаўжаеце жыць у сваіх кніжках, у сваёй Кавалёўскай "камуне", у памяці шчырых сваіх сяброў і чытачоў.

**Уладзімір ЛІПСКІ**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ – ЛІТАРАТУРА

Пра 80-годдзе Ефрасінні Бондаравай, 95 гадоў з дня нараджэння Міхася Скрыпкі і іншыя даты і падзеі тыдня пойдзе размова ў панядзелак у **"Радыёфакце"** ў рубрыцы "Кола часу", якую вядзе Навум Гальпяровіч.

**У аўторак, у 22.30 — "Брама"**. Сярод герояў праграмы — пісьменніца Таіса Бондар, у сераду, як звычайна ў гэты час, — **"Авансцэна"** — аўтарская праграма Святланы Шалімы. У чацвер Галіна Шаблінская ў праграме **"Палітра"** пазнаёміць з творчасцю і асобай Віктара Карамазава, а ў **"Сентыментальным паляванні"** Ірыны Шаўляковай пойдзе размова на тэму **"Літаратурная палеміка"**.

У **суботу ў "Жывым гуку"** сустрэча з гітарыстамі Яўгенам Грыдзюком і Наталляй Ліпніцкай. Сустрэча з паэтам, галоўным рэдактарам штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" **Віктарам Шніпам.** Пачатак музычна-паэтычнага шоу ў **16.15.** У нядзелю — навіны сусветнай літаратуры.

А вось што чакае аматараў начнога чытання пасля паўночы: **25 лістапада** — Вірджынія Вульф. Апавяданне **"Спадак"**; **26-га — Габрыэль Маркес "Крывавы след на снезе"**, **27-га — Г. Чэстартан "Кінжал з крыламі"**, **28-га — Людміла Рублеўская "Семела і Юпітэр"**.

КАНАЛ "КУЛЬТУРА"

Звяртаем увагу прыхільнікаў творчасці У. Караткевіча, што цяпер кожны **панядзелак-аўторак** у **"Клубе дамаседаў"** у **11.00** яны змогуць пачуць чытанні рамана **"Хрыстос прызямліўся ў Гародні"**. У **сераду, 27.11**, таксама ў гэты час — **"Літаратурны клуб" М. Прохар** разам з супрацоўнікамі часопіса "Полымя", а **ў чацвер — "Натхненне"** В. Макарэвіча.

Як звычайна, кожны аўторак у **"Сімфоніі дня"** — блок літаратурных праграм: у **12.10 — "Дзеяслоў"**, у **14.10 — "Магія творчасці"** З. Каваленкі, пасля — **"Сугалоссе"** У. Дзюбы ў **14.40**, дзе вы пачуеце пра пераклады лірыкі ўкраінскіх паэтаў на беларускую мову. З **15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага**, тэма: **"Эпісталярная споведзь М. Ю. Лермантава"**. У **"Паэтычным радыётэатры"** прагучыць радыёдзённік **"Надзея лістапада"** паводле вершаў Л. Геніюш, У. Караткевіча, М. Стральцова. І завершыць **"Літаратурны аўторак"** на канале "Культура" праграма Г. Шаблінскай **"Гаспода"**, якая пачнецца ў **16.10** і тэму якой вызначыла назва апошняга паэтычнага зборніка У. Караткевіча **"Быў. Ёсць. Буду"**. У дзень нараджэння пісьменніка яго згадаюць сястра Н. Кучкоўская, студэнцкі сябра, доктар філалогіі, прафесар з Варшавы Ф. Няўважны, літаратуразнаўца А. Верабей. Прагучаць урыўкі з твораў пісьменніка ў выкананні артыста А. Шарова.

**Н. К.**

